
Асеннія сустрэчы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Пянькі — тэатрам славіліся → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3002) Год LVIII | Беласток, 24 лістапада 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Абрады на сцэне ў дваццаты раз

**Пяць груп і выканаўца выступілі на сцэне ў беластоцкай сядзібе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў першай частцы сёлетніх, ужо дваццатых прэзентацый «Беларускі абрад на сцэне». Зала была запоўнена да краёў, а гледачы — амаль выключна ў сталым узросце, рэагавалі спантанна, заліваючыся смехам, а часам і спяваючы разам з акцёрамі ў каля дваццаціхвілінных сцэнках.**

Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, распытваны «Нівай», для чаго сёння патрэбны такі агляд абрадавых груп, сказаў:

— На гэтае пытанне можна адказаць пытаннем. Нашто патрэбная беларуская мова, беларуская традыцыя на Беласточчыне, нашто патрэбнае пачуццё беларускасці? Беларускі народны абрад ствараўся пры дапамозе беларускай мовы, беларускай культуры на працягу соцень гадоў нашымі папярэднімі пакаленнямі, якія пражывалі тут і сваю беларускую тоеснасць адзначалі, не заўсёды нават свядома. Нават калі не называлі сябе беларусамі, то напэўна не палякамі, часта проста тутэйшымі і ствaралі каштоўнасць, якая з'яўляецца адметнасцю беларускай культуры. Абрад гэта якраз вельмі важная адметнасць беларускай культуры. Я лічу, што калі будзем паказваць абрады на сцэне, асабліва маладым пакаленням, то ёсць надзея, што любоў да народных абрадаў, да нашай нацыянальнай свядомасці не будзе знікаць так хутка, хаця будзе знікаць, бо бачым, што знікае. Аднак будзе гэта ратунак перад глабалізацыяй еўрапейскай культуры.

Таксама падкрэсліў:

— Абрады на Беласточчыне жывуць у той меры, наколькі беларуская вёска жывая. Калі беларуская вёска жыве слабавата, то і абрад вельмі слабы. Аб'ектыўныя ўмовы жыцця даводзяць да дэзінтэграцыі беларускай вёскі. Застаецца ў ёй перш за ўсё старое пакаленне, але гэта не значыць, што трэба апусціць рукі і забыцца пра тое, што стварылі нашы продкі.

Вядучай «Беларускі агляд на сцэне» была Кацярына Філіпік, новая супрацоўніца БГКТ, выпускніца рускай філалогіі (яе папярэдніца была буларусісткай). Агляд (10 лістапада) адкрылі пяць жанчын з групы «Падляшанкі» з Гарадзіска пад кіраўніцтвам Ганны Тэслюк з абрадавай сцэнкай «Вячоркі». Тры жанчыны з Дабрывады: Валянціна Клімовіч, Ніна Яўдосюк і Барбара Якімюк расказалі са сцэны, але перш за ўсё паказалі, як выглядала апрацоўка лёну. Фальклорная група, якая складаецца цяпер толькі з іх траіх, у чэрвені адзначала 45-годдзе дзейнасці. На агляд прывезлі яны старую машыну для апрацоўкі лёну. Перад выхадам на сцэну Барбара Якімюк прызналася:

— Мае ўнукі ўжо традыцыяй не цікавяцца. Я нават не сказала ім, як зрабіць ільняныя штаны. Самае галоўнае, каб хаця ведалі, як выглядае лён ці проса.

Жанчыны расказвалі, што памятаюць са сваёй маладосці:

— Калісьці ў вёсцы штаны, прасціны, сарочкі — усё было з лёну. Вечарам запароўвалі лён і шмаравалі аснову, каб была жорсткая, і заўтра можна было перабіраць. Пры хатах былі адмысловыя памяшканні, дзе жанчыны збіраліся, нават па дзесяць ці больш. Церлі, часалі, трапалі лён, а пры гэтым спявалі, а і абгаварвалі іншых.

Гурт «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага пад кіраўніцтвам Ніны Бялецкай і Мікалая Фадзіна прадставіў абрад «Сваты». На сцэне выступіла больш за дваццаць чалавек, якія бавілі аўдыторыю аповедамі і песнямі пад акампанемент акардэона. Раней Ніна Бялецкая сказала нам:

— Абрады, паказаныя намі на сцэне, нічога не губляюць са сваёй сапраўднасці, таму што паказваюць людзей, якія сапраўды з вёскі. Яны не дэкламуюць, а кажуць ад душы.

Дадала:

— Я ездзіла па вёсках і ад мясцовых жыхароў пачула, як гэта было раней. Трэба такія абрады паказваць, бо куды б мы з імі не паехалі, маем поўныя глядзельныя залы.

Абручальным напоем пасля паказу мастакі з Бельска пачаставалі таксама аўдыторыю.

«Незабудкі» з Курашава ў сваю чаргу былі прадстаўлены Нінай Грыгарук. Яна прыехала на агляд адна, таму што астатнія ўдзельнікі гурту мелі спяваць у той час на працягваючыхся ў Чыжах «Асенніх сустрэчах з беларускім фальклорам». Перад выступам расказвала нам:

— Я хацела паказаць, як 54 гады таму адбывалася вяселле і як перапівалі. І гэта не пра чыёсь вяселле, а як рыхтаваліся да майго. Я расказваю і тое, што было і смешна, і пра тое, што сур'ёзнае. Я гляджу па зале, і няма тут зусім маладых. Ніхто, відаць, ужо гэтым не цікавіцца, але старэйшыя можа сабе ўспомняць, каму мо пакоціцца сляза, што маладыя гады прайшлі. Таму варта паказваць абрады.

Спадарыня Ніна выступіла ў фартуху захаваным ад яе бабулі:

— Мне семдзесят гадоў, а гэтаму фартуху — з восемдзесят.

Сем жанчын з тэатральнага калектыву з Універсітэта трэцяга ўзросту з Бельска-Падляшскага пад кіраўніцтвам Тамары Русачык зацікавілі сцэнай абраду «Багач».

— «Багач» з'яўляецца каляндарным рытуальным святам, звязаным з восенню, калі канчаецца жніво і пачынаюць сеяць. «Багач» гэта таксама кошык з жытам, у які мы ставім запаленую свечку, а жыта — з першага зажыначнага снапа. У гэтае свята з ім абыходзілі ўсе двары ў вёсцы. Пакідалі яго ў аднаго з гаспадароў і стаяў там да наступнага ўраджаю. Гаспадар удзячны, што гэта яму прыпадае прыняцце ўдзельнікаў гэтага ўрачыстага абходу, гасцяваў у сябе ўсіх і ўсіх частаваў. Паводле вераванняў ёсць, што багач прыносіць поспех, росквіт і здароўе.

З Бельска-Падляшскага выступіў таксама «Антракт», які падрыхтаваў абрад «Зажынкі». Чарговыя прэзентацыі ў рамках «Беларускага абраду на сцэне» былі праведзены: 17 лістапада ў Дубічах-Царкоўных і ў Бельску-Падляшскім, а наступныя пройдуць 22 лістапада ў Беластоку (гадзіна 17; БГКТ), 24 лістапада ў Гайнаўцы (14 гадзіна; Гайнаўскі дом культуры; цэнтральная імпрэза).

10 лістапада, яшчэ перад прэзентацыяй абрадавых калектываў, у сядзібе Галоўнага праўлення БГКТ адбылося пленарнае пасяджэнне Таварыства, перад справаздачна-выбарчым з'ездам дэлегатаў, які запланаваны на 22 снежня. Ян Сычэўскі пры нагодзе агляду запрасіў усіх удзельнікаў на 29 лістапада (на 17 гадзіну) на раённую (Беласток і Беластоцкі павет) перадвыбарчую канферэнцыю. Неафіцыйна кажуць, што ад пасады сакратара Галоўнага праўлення БГКТ мае адмовіцца Валянціна Ласкевіч. Сваёй адстаўкі таксама не выключае, маўляў, Ян Сычэўскі.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



Жанчыны з Дабрывады паказалі, як выглядала апрацоўка лёну



„Васілёчкі"


Ніна Грыгарук з Курашава





# Бараніць ці „спяваць Лазара”?

Праглядаючы сеціва, наткнуўся я ў інтэрнэт-прасторы на артыкул шаноўнай Святланы Калінкінай з „Народнай волі”, прысвечаны загадкаваму зняволенню каталіцкага святара Уладзіслава Лазара і пазіцыі ў дачыненні да гэтага працэсу беларускіх праваабаронцаў. Святлана Калінкіна — адна з найбольш вядомых, яркіх і рэзанансных публіцыстак нашага медыйнага поля. Можна сказаць, што яе слова адгукаецца ў досыць шырокіх колах чытаючай публікі. Уважліва перачытаўшы матэрыял „Тэорыя і практыка” яшчэ раз мяркую, што аўтарка наўмысна завастрыла сітуацыю, выказаўшы абурэнне пазіцыяй айчынных праваабаронцаў, якія, маўляў, нічога не робяць у гэтай справе, не спяшаюцца прызнаваць арыштаванага, так і невядома за што, ксяндза вязнем сумлення. Ёсць у журналістыцы такі прыём — наўмысна і правакацыйна (у добрым сэнсе) абвастрыць сітуацыю з мэтай прыцягнення ўвагі грамадскасці. У такім разе я абсалютна разумею Святлану Калінкіну. Але пакуль што артыкул паважанай публіцысткі інспіраваў і выклікаў толькі негатыў — шквал інтэрнэтных брудных каментароў у бок „заеўшыхся і тлустых” праваабаронцаў. Яшчэ больш актывізаваліся разнастайныя камп'ютарныя „тролі” і правакатары — айчынным грамадскім праваабаронцам зараз, акрамя сталага прэсінгу ўлад, даводзіцца цэлы час вытрымліваць і розныя гнюсныя інтрыгі, атакі крыкуноў-папулістаў. Апошніх таксама развялося нямала. Здавалася, што ж такім замінае зрабіць лепш — вазьміцеся і стварыце сваю праваабарончую арганізацыю, зрабіце больш прафесійна, грунтоўна і сумленна тое, што робяць „Вясна”, „Платформа”, Беларускі Хельсінскі камітэт ды іншыя праваабарончыя арганізацыі. Але ж не робяць...

Святлана Калінкіна прыводзіць змест сваёй гутаркі з „вядомым праваабаронцам”, не называючы яго прозвішча, верагодна з журналісцкай этыкі. Але тут якраз лепш было б назваць імя, бо сапраўдныя праваабаронцы не хаваюць сваіх меркаванняў і пазіцыі.

Нельга лезці ўперад бацькі ў пекла, нельга лезці наперад святара за алтар. У справе ксяндза Лазара, што характэрна, да гэтай пары па-сутнасці маўчыць (!) кіраўніцтва Касцёла ў Беларусі. Такая пазіцыя можа быць выклікана некалькімі сітуацыямі. Версія першая, кепская. Проста недарэчна для ўсіх, што святар мог быць ангажаваны ў дапамогу нейкаму міфічнаму шпіёну. Пры сучасных тэхналогіях гэта проста смешна. Але магчыма, што ксёндз Лазар сапраўды замешаны ў нечым нядобрым, што можа сур'ёзна папсаваць імідж, прабачце, лепш сказаць, аўтарытэт рымска-каталіцкай канфесіі. Версія другая, яшчэ горшая. Кіраўніцтва Касцёла папросту баіцца ўлад, таму не абвастрае пытання з дзіўным арыштам і абсурдным зняволеннем святара. Баіцца таму, што рызыкуе страціць пэўныя прэферэнцыі, прыкладам, дазволы на пабудову новых храмаў і таму падобнае. Ну і, нарэшце, версія трэцяя, адзіная прымальная з маральнага гледзішча, як верніка, так і звычайнага чалавека. Кіраўніцтва Касцёла лічыць скрытыя дыпламатычныя шляхі найлепшым сродкам у справе абароны зняволенага Уладзіслава Лазара. У апошнім разе праваабаронцы тым больш не мусяць „біць у хамут”, таму што іх галоўны прынцып як у хірургаў — не нашкодзіць.

Я пагаджаюся з Калінкінай у многіх момантах, але праваабаронцы не маюць права на заявы, якія робяць і мусяць рабіць палітыкі альбо актывісты грамадскіх рухаў і арганізацый. У гэтым сэнсе грамадскасць якраз не маўчыць — збірае подпісы, робіць заявы з патрабаваннямі галоснасці ў справе Уладзіслава Лазара. Вось і на мінулым тыдні выступіў са зваротам лідар Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павал Севярынец. А ў праваабаронцаў, на жаль, сапраўды няма падставаў абвесціць арыштаванага ксяндза палітвязнем. У прынцыпе, зважаючы на незаконны арышт, яны ёсць, але тады трэба абвесціць „палітычнымі” ледзь не палову ўсіх зняволеных у Беларусі.

Не ў нашых сілах прадказаць — чым слова наша адазвецца. Часта добрымі намерамі, як вядома, выбрукавана дарога ў пекла. І замест спрыяння ратаванню чалавека, можна апынуцца ў ролі таго, хто паводле крылатага выслоўя „спявае Лазара”.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Плявальніца



Палітыкам у Польшчы можа быць кожны, наколькі ён сам сябе выдумае. Дадзеная канцэпцыя знакамітая, хоць і неабавязкова арыгінальная. Ужо ў старажытнай касмалогіі дагонаў, афрыканскага племя, якое жыве ў сучаснай дзяржаве Малі, мелася аналагічная ідэя — адно датычная стварэння Сусвету. У адпаведнасці з ёю бог Ама — Усёствавальнік з'яўляецца ў той час, калі сам сябе вынаходзіць. Прычым гэта робіцца на ментальным узроўні, а затым матэрыялізуецца ў выглядзе энергіі слова. Такім жа чынам выдумала сябе дэпутатка ад ПіС са званнем прафесара Крысціна Паўловіч. Толькі тое ў акце палітычнага вынаходніцтва ўчыніла кардынальную памылку: спачатку аплявала каго трэба і не трэба, атрутным словам, значыць, прымяніла энергію слова. А потым яна пачала ментальна ахапляць тое, што з яе стварыла грамадскую постаць. Каб не быць неабгрунтаваным, дазвольце мне нагадаць, што яе стварыла. Аб тых, для каго рэспектабельным з'яўляецца прэзідэнт Польшчы, сказала: «Грамадству перабльталася ў галовах». Пра сваіх крытыкаў: «Гэта прадстаўнікі лева-гендэрна-феміністычных асяроддзяў вядомыя аплёўваннем Касцёла». А да дэпутата ад СЛД Марка Бальта ў час пасяджэння Сейма коратка і па-салдацку гыркнула: «Выё—ай!»

Асабіста я называю проста аплёўваннем тое, што дэпутатка ад ПіС называе банмотам — дасціпным выразам, слоўцам. Слова запазычанае з французскай мовы і азначае «добрае слова». Старажытныя грэкі мелі на гэта ўласную фразу — апафтэгма. Сёння слоўцам-банмотам называюць дасціпнае, трапнае, удалае выказванне. Пакручаста называюць гэтак таксама славесную няёмкасць, вынікаючую з невуцтва або дурноты; або неабдуманае выказванне. На жаль, гэтае слоўца мае нешта ад хамелеона, які асвоіў у ідэальнай ступені здольнасць мімікры. Гэта ўменне стаць падобным да бліжэйшага акружэння. У выпадку палітычнага банмота, вядома, гаворка пра метафарычную мімікрыю. Так вось слоўца можа прысесці незаўважаным на кончыку языка і чакаць свайго часу. Калі працэс праходзіць у культурным асяроддзі людзей, то, верагодна, з'явіцца ў адпаведным часе і ў належным моўным выглядзе. І на самой справе балюча ўдарыць, ды знячэўку, быццам джала рассмяянага скарпіёна, але ж, не смяротна. Прыгадаю тут непераўзыдзенае для многіх палітыкаў выказванне кіраўніка СЛД Лешка Мілера, што сапраўднага мужчыну пазнаем не па тым, як пачынае, а як кончыць. Па сённяшні дзень яго цытуюць. Але часам таксама слоўца ніколі не спее, хоць па-ранейшаму расце як дурное ў цёмных кутах палітычнай тарабаршчыны і суцяжніцтва. Бывае, што ў падабенстве да яго са стопрацэнтнай верагоднасцю хлыне быццам атрутны плявок кобры грубай знявагай або паспалітым хамствам.

Слоўца няроўнае слоўцу, як плявок пляўку. На штосьці іншае плююць у Кітаі, на што іншае ў Польшчы. Кітайцы плююцца літаральна. Палякі ў пераносным сэнсе, хоць даймаючы брудна. Кітайцы зрабілі з плявання мастацтва. Палякі са свайго мастацтва аплёўвання — жалюгодную карыкатуру інтэлігентнай рэплікі і славеснай дасціпнасці. Я не ведаю, як цяпер у Кітаі, але яшчэ дваццаць гадоў таму ў тамашніх установах, офісах, магазінах і бальніцах, і на кожным рагу вуліцы плявальніца была неад'емнай часткай абсталявання, каб культурны кітаец меў у што пыльнуць слінай. Публічна плявалі там і адкрыта, і нават практыкуючы навыперадкі ў меткасці пляўкоў. Бацька сённяшняй магутнасці Кітая Дэн Сяапін, які ў сямідзесятыя гады дваццатага стагоддзя паклаў пачатак эканамічных рэформаў у гэтай бедненькай краіне, быў гросмайстрам у гэтай галіне. У свой час захапіў сваіх гасцей — заходніх дыпламатаў — майстэрскім пляўком у аздобную плявальніцу, што стаяла ў яго кабінеце, з адлегласці... 5 метраў. Плявальніцы, наколькі я памятаю з дзяцінства, і ў Польшчы карысталіся вялікім поспехам. Можна было сутыкнуцца з імі амаль усюды — у шпіталях, паштовых аддзяленнях, офісах... Калі яны зніклі з грамадскай прасторы, усе паклапаціліся пра алёўванне адзін аднаго. Толькі што слоўца гэта не апаганьванне. А плявальніца гэта не публічнае аплёўванне. Эх, што гэта такое парабілася з народам!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Па волі народа (выбранага)?

Беластоцкія ўлады, мабыць, ажыўленыя актыўнасцю жыхароў горада, падчас галасавання па прапанаваных грамадзянскага бюджэту (прыгадаю, выйгралі бульвары Яна Багаслова), вырашылі рушыць услед рэалізацыі далейшых ідэй, маючых на мэце паказаць грамадзянам, што маюць яны больш шырокі ўплыў на лёс свайго горада, чым толькі пры галасаванні раз на чатыры гады на мясцовых выбарах ці ў рэферэндумах. Адсюль — мне здаецца — задума акцыі „Твой Беласток 2020”. На сайце **www.twojbialystok2000.pl** прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі напісаў: «Мэтай акцыі „Твой Беласток 2020” з'яўляецца запрашэнне жыхароў Беластока выказаць сваё меркаванне аб будучыні горада. Дзякуючы шырокім інвестыцыйным планам Беласток ад некалькіх гадоў змяняе свой твар. Многія праекты мадэрнізацыі Беластока былі дасягнуты дзякуючы эфектыўнаму здабыванню грантаў ад Еўрапейскага Саюза. Сёння мы знаходзімся на парозе новай еўрасаюзнай перспектывы 2014-2020. Гэта яшчэ адзін шанц на сфінансаванне надзвычай важных для жыхароў праектаў, дзякуючы якім Беласток будзе лепшым месцам для жыцця. Гэта таксама адпаведны час, каб пачаць абмеркаванне ідэі якім мае быць Беласток праз 7-10 гадоў. Гэта важна для таго, каб мы, беластачане, вырашылі, што важнае для нас, для нашага горада, які горад пакінем будучым пакаленням. Мы хочам, каб беластачане свой голас далі за сваю будучыню».

Карацей кажучы, гаворка пра тое, каб людзі падказалі (вырашылі?) якія праекты павінны быць рэалізаваны ў Беластоку да 2020 года і ў якім напрамку павінны ісці беластоцкія адукацыя, культура, прадпрымальніцтва і як павінна выглядаць гарадская прастора. Гэта пра тыя чатыры абшары згадаў прэзідэнт Трускаляскі некалькі дзён таму падчас прэс-канферэнцыі папярэджваючай акцыю. Як паведамляў, прапановы могуць быць прадстаўлены кожным праз лістынг на вышэйзгаданым сайце або ў ходзе дэбаты 21 лістапада (гадзіна 17, зала будынка факультэта архітэктуры Беластоцкай палітэхнікі, вул. Оскара Сасноўскага, 11), да ўдзелу ў якой заахвочваюць спецыяльныя паштоўкі, адпраўленыя беластачанам з выявамі стадыёна, аўтобусаў, агарода Браніцкіх, рынку Касцюшкі і лозунгам „Скажы, у якім горадзе хочаш жыць”. Дзеянне таксама прасоўваецца на фейсбуку і твітэры. У дэбаце пацвердзілі свой удзел людзі родам з Беластока, якія ў цяперашні час працуюць за межамі сталіцы Падляшскага ваяводства. Ключ падборкі гэтых людзей неадназначны, а будуць гэта Тамаш Багінскі, рэжысёр, стваральнік намінаванай да прэміі Оскара «Катэдры»; Шыман Галоўня, журналіст, вядучы **TVN**; Гжэгаж Належыты з суполкі **„Siemens”**; Ярослаў Майсяюк з суполкі **„Cyfrowy Polsat”**; Багдан Савіцкі з першай праграмы Польскага радыё. Як пераконваў прэзідэнт Трускаляскі падчас прэс-канферэнцыі, яны павінны адказаць на пытанне аб тым, як Беласток бачыцца на адлегласці.

Пры нагодзе, прэзідэнт нагадаў у размове з журналістамі, што ў цяперашні час Беласток апынуўся ў ліку лідараў па выкарыстанні сродкаў ЕС.

— Будзе гэта нагода, каб жыхары далучыліся да планавання новага еўрасаюзнага бюджэту 2020 г.

Адзначыў таксама:

— Прыпынак у развіцці будзе рэгрэсам.

Беластачане могуць выказваць свае меркаванні месяц. На пераломе снежня і студзеня маем пазнаёміцца з рапартам, абагульняючым усю акцыю. Адказваючы на пытанне „Нівы”, які фармальны пераклад прадстаўленыя ідэі будуць мець на іх фактычную рэалізацыю, Тадэвуш Трускаляскі ў дыпламатычным тоне сказаў:

— Гэты тып кансультацыі кожнага, хто выконвае сваю ролю па грамадскай волі і для народа. Знаёмімся з меркаваннем беластачан, каб, магчыма, змяніць палітыку ў горадзе. Гэтыя меркаванні будуць разглядацца як воля жыхароў.

Цікавае і значнае, што ані сярод медыя-партнёраў, ані пералічаных прэзідэнтам запрошаных гасцей «звонку» на дэбату ў Палітэхніцы няма прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей Беластока.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# XX Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам

У першай палове дзевяностых гадоў на Беласточчыне ўзніклі новыя беларускія арганізацыі, якія сталі ладзіць свае мерапрыемствы, таксама па ініцыятыве самаўрадаў. Нядаўна адсвяткавалі мы дваццаты выпуск «Бардаўскай восені», 10 лістапада ў Чыжах адбыліся XX Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам, а ў лістападзе ў Гайнаўскім доме культуры будуць падведзены вынікі XX Агляду «Беларускі абрад на сцэне».



Дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк (злева) — ініцыятар і арганізатар Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам — атрымаў з рук войта Юрыя Васілюка ўзнагароду



Калектыў «Чыжавяне»



Калектыў Саюза пенсіянераў і інвалідаў Чыжоўскай гміны працуе пад кіраўніцтвам Ірэны Лукашук (іграе на скрыпцы)

Сёлетнія XX Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам у Чыжах сабралі ў святліцы шмат людзей.

— Я вельмі-вельмі цешуся, што так многа сабралася вас сёння на нашых Сустрэчах з беларускім фальклорам. Гэта чыста беларускае мерапрыемства і адно з найважнейшых у нашай гміне. Мы ганарымся сваёй беларускасцю і таму ў нашай гміне ладзім многа мерапрыемстваў з беларускім рэпертуарам, — заявіў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, адкрываючы беларускае мерапрыемства, якое стала нагодай для падвядзення вынікаў культурнай дзейнасці ў Чыжоўскай гміне.

Войт Юры Васілюк заявіў, што сёлета свядома быў адкліканы археалагічны фэст у Збучы, якому пачынаючы з наступнага года прадбачваецца іншая формула правядзення. Затое згодна з планам быў арганізаваны беларускі фэст «Купалінка» ў Ляневе і супольна з Гайнаўскім белмузеем быў наладжаны ў Падрэчанах беларускі фэст з цыкла «І там жывуць людзі». Дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк, які быў ініцыятарам і надалей з'яўляецца арганізатарам Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам, падчас юбілейнага выпуску мерапрыемства атрымаў з рук войта Юрыя Васілюка ўзнагароду за шматгадовую ангажаванасць у прапагандаванне беларускага фальклору.

— Падчас папярэдніх выпускаў Сустрэчы з беларускім фальклорам ладзіліся ў рознай формуле, але мы выпрацавалі ўжо стрыжань гэтага мерапрыемства і будзем яго прытрымлівацца, сумяшчаючы прэзентаванне неапрацаванага фальклору з апрацаваным і нават з эстраднай музыкай. Аднак не гаворым, што будзем пастаянна ладзіць яго ў Чыжах, бо так, як было і ў мінулым, плануем выходзіць з беларускімі мерапрыемствамі і ў іншыя сёлы, — сказаў дырэктар Юры Якімюк.

Працаўнікі Гміннага асяродка культуры з нагоды юбілею Сустрэч з беларускім фальклорам, абдарылі ўсіх сабраных шакаладнымі цукеркамі. Сцэнічнае афармленне мерапрыемства было старанна падрыхтаванае. Вядучыя Мар'ёля Герман і Паўліна Паўлючук-Коська, выступаючы па-беларуску, удала ўзмацнялі беларускі характар мерапрыемства.

У час Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам прэзентаваліся беларускі фальклор і эстрадныя песні. Дзеткі з тэатральнага калектыву «Антракт» Бельскага дома культуры пад кіраўніцтвам інструктара Альжбеты Фіёнік удала запрэзентавалі «Зажынкі» і спявалі даўнія жніўныя песні. Аднак музычныя сустрэчы ў святліцы ў Чыжах распачаліся і закончыліся выступамі гайнаўскага вакальна-інструментальнага калектыву «Метро». Выпускнікі Гайнаўскага белліцэя запрэзентавалі рэпертуар, пад які гуляе моладзь у наваколлі Гайнаўкі. Арганізатары мерапрыемства прадбачылі заканчэнне сустрэч у выглядзе танцавальнай вечарыны як для маладых, так і для старэйшых удзельнікаў мерапрыемства.

Асеннія сустрэчы былі перадусім добрай нагодай для запрэзентавання мясцовай публіцы спеваў у выкананні беларускіх калектываў Чыжоўскай гміны. Спачатку цікава спявалі члены Калектыву Саюза пенсіянераў і інвалідаў Чыжоўскай гміны, што дзейнічае ўжо год пад кіраўніцтвам вопытнай былой настаўніцы музыкі Ірэны Лукашук. Зараз калектыў пенсіянераў успамагаюць два маладыя хлопцы з Гайнаўкі, якія прыязджаюць сюды на адпачынак да сваякоў.

— Я іграю на скрыпцы, што стала ўжо візітнай картачкай нашага калектыву, Тамаш састаўляе акампанемент на гітары, а Кшысек на тамбурыне і гэта стварае цікавы эфект. Мы прэзентуем мясцовыя песні, таксама са спеўнікаў Сцяпана Копы. «Чыжавяне» ў вялікай ступені выконваюць рэпертуар на беларускай літаратурнай мове і мы з імі не сапернічаем, толькі папаўняемся, — заявіла яшчэ перад выступам Ірэна Лукашук, якая раней выступала ў «Чыжавянах». — Мы пастаянна пашыраем рэпертуар і зараз можам заспяваць на беларускай і іншых славянскіх мовах.

У мінулым годзе ў час асенніх сустрэч у змененым складзе з трох спявачак запрэзентаваліся «Збучанкі», дзе ад старога складу выступіла толькі Кацярына Ціханюк. Сёлета гэты склад большы.

— Цяпер мы выступаем учатырох: я, дзве жанчыны з Мора ды кабета са Старога Беразова і таму думаем як сябе назваць, бо назва «Збучанкі» перастала быць адэкватнай, — сказала салістка і кіраўнік «Збучанак» Кацярына Ціханюк. — Сённяшнія сустрэчы з беларускім фальклорам нам асабліва цікавыя, бо перадусім выступаюць свае калектывы і перад сваёй публікай. Гэта ж нашае свята.

«Чыжавяне» выступілі ў крыху змененым складзе.

— У нашым калектыве перасталі спяваць Марыя Якімюк (шматгадовая кіраўнік калектыву — А. М.), Грыгорый Якімюк (шматгадовы спявак і муж спадарыні Марыі — А. М.) і Вольга Ахрымюк (таксама шматгадовая салістка — А. М.), але дайшлі да нас Альжбета Міхалюк, Галіна Карнілюк і Андрэй Карнілюк, якія выступалі ў нашым калектыве раней і цяпер вярнуліся, — сказала Хрысцінія Гаўрылюк, спявачка калектыву «Чыжавяне» і заадно старшыня Рады Чыжоўскай гміны.

Канешне, свае калектывы былі асабліва даспадобы мясцовай публіцы і шкада толькі, што спынілі выступы «Незабудкі» з Курашава. Магчыма, што гэта часовая з'ява і яшчэ ёсць надзея, што пакажуць яны як у мінулым спявалася ў Курашаве. Затое з цікавым абрадам «Квашанне капусты» выступілі «Малінкі» з Маліннік. Кіраўнік маліннiцкага калектыву Вера Нічыпарук дабавіла, што яна сола і цэлы калектыў нядаўна былі кваліфікаваны на Агульнапольскі фестываль капэл і народных спевакоў у Казімежу над Віслай. «Малінкі», як і «Збучанкі», прэзентуюць у асноўным неапрацаваныя даўнія песні, якія маюць вялікую фальклорную вартасць. Калі нашыя беларускія вакальна-інструментальныя калектывы, пачынаючы са славутых «Дубіноў», сталі спяваць на вясковых забавах і вяселлях песні на беларускай і іншых усходнеславянскіх мовах, у іх рэпертуары побач тагачасных шэдэўраў сталі паяўляцца іх аўтарскія песні, якія зараз можна назваць мясцовым фальклорам. З аўтарскімі песнямі і агульнавядомымі творамі цікава запрэзентаваліся ў Чыжах беларускія вакальна-інструментальныя гурты «Арт-Пронар» і «Нарва» з Нарвы. Яны вельмі цёпла былі ўспрыняты як малодшай, так і старэйшай публікай. «Калінка» з Залук, прэзентуючы эстрадныя беларускія творы, асабліва спадабалася моладзі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Сяброўская сустрэча

З Юзікам Калішам працаваў я на чыгуначнай станцыі ў Чаромсе. У дзевяностых гадах нашы дарогі разышліся. Я падаўся на пенсію, сябра арганізаваў сямейную фірму і заняўся скупкай грыбоў. Юзік захапляецца музыкай. Купіў гармонік і ў вольных хвілінах падыгрывае на ім. Некалькі год таму пры нагодзе скупкі грыбоў у Тапарках пазнаёміўся я з братамі Баронамі — Маркам, Петрусём і Сцяпанам. Новыя кампаньёны, як і ён, захапляюцца музыкай і спевамі. Арганізавалі сямейны гурт. Марк іграе на гармоніку і спявае, Пятрусь, як вакаліст, дапамагае брату, а Сцяпан іграе на арганах. З гэтымі музыкантамі я ўпершыню спаткаўся пры нагодзе асвячэння святліцы ў Тапарках. Выступалі тады на святочнай імпрэзе. Пасля запрасілі іх у Чаромху на Дзень сеніёра, арганізаваны Саюзам польскіх пенсіянераў і інвалідаў. З таго часу доўжацца сяброўскія кантакты (натабена, браты Бароны былі прыняты як сімпатыкі ў члены чаромхаўскай арганізацыі).



Браты Бароны (злева направа): Пятрусь, Марк і Сцяпан

10 лістапада, дзякуючы ветлівасці грыбнай фірмы Калішаў і музыкантаў з Тапаркоў, была арганізавана танцавальная вечарына ў мясцовым асяродку культуры. Карыстаючыся нагодай, правёў я кароценькую размову з музыкантамі.

— Як даўно займаецеся музыкаваннем? — пытаю братоў у час перапынку.

— Больш дваццаці гадоў, — кажа Пятрусь. — Памятаю, што закончыў тады прафесіянальную школу...

— Разумею, не музычную...

— Мы — самавукі, — уключаецца ў размову Марк. — У мінулым у нашай вёсцы былі музыканты. Міхась Соха іграў на педальным гармоніку. Аднавяскоўцы запрашалі яго на вяселлі, хрысціны. Іграў на вячорках. Пасля Сцяпан Бяроза і Рыгор Патэюк арганізавалі музычную групу. Ігралі на арганах. Шмат моладзі тады было ў вёсцы, — працягвае суразмоўца. — Каля нашай хаты была пляцоўка. Моладзь арганізавала забавы. Мы заходзілі ў святліцу і, прысеўшы ў куточку, захапляліся музыкай. Прывучваліся. Вось і зрадзілася думка арганізаваць сямейны гурт. Пасля пляцоўку разабралі, паколькі ўчастак пад ёй прызначылі пад пабудову дарогі...

— Дык што чуваць у вёсцы? — пытаю субяседнікаў, змяняючы тэму гаворкі.

— Старына. Вёска па-даўнейшаму на сваім месцы, — заяўляе Марк. — Адрамантавалі святліцу. Шкада, што пустуе. Моладзь уцякла ў горад вучыцца і ў пошуках працы. Гаспадаркай займаецца адно (на больш за восемдзесят дамоў) дванаццаць гаспадароў. Вядучымі жывёлаводамі лічацца Яўген Волчук і Пятро Дзмітрук. У першага статак налічвае 12 кароў, у другога — 14. А ў Ярослава Каляды і Пятра Бобіка, — прыбаўляе Сцяпан, — не зводзяцца коні.

Абрываецца размова. Музыкантаў выклікаюць на сцэну. Час працягваць забаву. Пакідаю сімпатычных кампаньёнаў. Дзякую арганізатарам за пачастунак („А ты, Валодзя, не жартуй... Прыходзь на забаву", — гаварыў Юзік Каліш па тэлефоне!). Не адмаўляюся ад запрашэння, калі чуюца такія словы. Усё ж такі гэта мой карэспандэнцкі абавязак.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Пянькі - тэатрам славіліся

**У падміхалоўскіх Пяньках ужо дзевяноста адзін год жыве Надзея Азябла. Яе доўгае жыццё плыве простай, крыштальна чыстай, бяспечнай ракой. Гэтая вада напаіла безліч прагнучых душ. Дзейнічала як цудоўны лек на ўсякія недамаганні. Адзін з вядомых рэжысёраў якраз ставіць у Варшаве новы спектакль, пралогам да якога з'яўляецца, між іншым, пытанне: хто гэта такі чалавек? Напэўна знаёмства са спадарыняй Надзяй будзе самай лепшай нагодай, каб расшыфраваць гэтую таямніцу нашага часу. Дробненькая, скромная, надзвычай тактоўная і працавітая жанчына, сапраўдны скарб згоднай, трохпакаленневай сям'і.**

Нарадзілася тут, у вясковай хатцы, пастаўленай рукамі роднага дзеда Сцяпана Астравецкага. Сам вокны і печкі рабіў, на скрыпцы граў. Гэта быў майстар на ўсе рукі. У гэтых сценах Надзя вянчалася, пахрысціла дзяцей, пахавала мужыка. Дзеці падрасталі, паявіліся ўнукі. Каб памясціць усіх, сын Валодзя побач старой рашыў паставіць новую, вялікую вілу. Перасяленне, хаця ў межах роднага панадворка, узбудзіла ў жанчыны пачуццё здрады. Праз трыццаць гадоў, бо столькі часу прайшло ад гэтага надта хвалюючага здарэння, не паспела звыкнуць да іншых інтэр'ераў, мэблі, посуду. Старая хата назаўсёды засталася першай і апошняй, таму менавіта гэтыя парогі прымалі чытачоў нашага тыднёвіка.

Яе ўспаміны пачынаюцца за кухонным сталом, дзе ў шэрую гадзіну садзілася цэлая сям'я.



Здымак з гадоў моладасці гераіні (справа)

— Тады святла ніхто не запальваў, — гаворыць спадарыня Надзя, — усе збіраліся і спявалі. У мамы было моцнае сапрана, у сястры альт, спяваў і брат, а бацька падаваў тон і дырыжыраваў. Ён жа закончыў царскія настаўніцкія курсы, а там і царкоўны хор весці прывучалі. Помню як прыгожа спявалі мы песню „У цёмным лесе".

Бацька, шматгадовы настаўнік царскай школы ў Каралёвым Мосце, заўсёды цаніў адукацыю. Спадарыня Надзя ў даваенны перыяд паспела прывучыцца чатыры гады ў Пяньках і тры ў Міхалове.

— У тыя часы мала каму гэтак шанцавала, — кажа яна. — Абавязак школьны абымаў дзяцей да чатырнаццатага года жыцця, але ж не ўсе бацькі маглі сабе дазволіць пасласць дзяцей за мяжу роднай вёскі.Трэба было адзенне купіць, кніжкі справіць, а чым вышэй, тым гэта станавілася больш каштоўным. У такіх абставінах даваенныя пакаленне па некалькі разоў паўтарала курсы вясковай чатырохгодкі. Пасля заканчэння сямі класаў можна было паступаць у беластоцкую гімназію. Так зрабіў мой брат. Правучыўшыся там тры гады, ён падаў дакументы ў Віленскі ўніверсітэт. На жаль, Другая сусветная вайна расстроіла ўсе планы. 22 ліпеня 1944 г., у дзень вызвалення, брата разарвала міна. Гэта было для нас балючае перажыванне.

Спадарыню Надзю бацька паслаў на кравецкія курсы, арганізаваныя пры міхалоўскім земляробчым кружку. Не хацела яна туды ісці, марыла пра штосьці лепшае, але з бацькам нават і не падумала сварыцца, як маўлялі «чым хата багата, тым рада». Там добра рыхтавалі будучых рамеснікаў, а яшчэ песень і танцаў вучылі. Гэта быў 1937/1938 год. Курсы вяліся па-польску.

— За санацыі іншых моў у міхалоўскіх школах не было, — аб'ясняе яна. — Хіба што ў царкве па-царкоўнаславянску можна было пачытаць. У нас служыў тады бацюшка Васіль Гурнічук, які стварыў дзіцячы хор. Там і знаёміліся мы з кірыліцай. Пры саветах руская і беларуская мовы сталі абавязковымі. Закончыўшы адукацыю, па бацькавай волі трэба было заняцца вывучанай прафесіяй. Аднойчы папа прынёс тканіну і прыказаў мне пашыць сабе сукенку. Убачыўшы пашытае адзенне, пракаментаваў: «Вось ты зарабіла на чарговы матэрыял; вось ён табе, цяпер шый другую». За трэцім разам трэба было пашыць сукенку маме. Тут жа пачалі сходзіцца суседзі з чарговымі заказамі: хто на фартушок, хто на дзіцячую сукеначку матэрыял падкіне. Паявіліся і першыя, зробленыя грошы.

У 1944 годзе нам прапанавалі перасяліцца ў Беларусь. Тады ў жывых не стала ні забітага немцамі бацькі, ні брата. Мама, не падумаўшы, з гора, каб уцячы ад сумнай рэчаіснасці, запісалася на выезд. Я пачала яе ўгаварваць, напамінаць пра магілы родных мужчын. За намі прыехалі ўжо савецкія і польскія чыноўнікі. Ледзь я выпрасіла, каб нас туды не забіралі. Прадстаўнік польскай улады аб'ясніў мне, што каб застацца, мушу неадкладна знайсці нейкую працу. З гмінная ўправы паслалі мяне на культурна-асветніцкія курсы ў Беласток. Пасялілі ў гатэлі па вуліцы Сянкевіча, сталовая была на Варшаўскай. Заняткі праходзілі ў ваяводскай управе па вуліцы Міцкевіча. Займаўся з намі, між іншым, Уладзіслаў Шыпульскі — тагачасны дырэктар беластоцкага драматычнага тэатра. Як мала хто, умеў ён заразіць любоўю да сцэны. З пасіяй здраджваў шматлікія сакрэты тэатральнага мастацтва. Паспяхова завяршыўшы вучобу, я вярнулася ў Міхалова. Тут уладкавалі мяне на працу ў бібліятэцы, якая знаходзілася у былым нямецкім будынку пры вуліцы Гераніміоўскай. Працоўны дзень звычайна працягваўся з трох пасля абеду да дзесяці гадзін ночы. Дахаты ў Пянькі дабіралася я пехатою. Працавала там з 1944 па 1946 год, пакуль не выйшла замуж. Тут жа паявіліся дзеці. Трэба было зноў вяртацца ў кравецтва. У міжчасе з мужыком Янкам стварылі мы вясковы драматычны гурток. Мясцовая моладзь удзельнічала ў спектаклях паводле твораў, між іншым, Янкі Купалы і Якуба Коласа. Удалося нам нават паказаць „Пінскую шляхту" Дуніна-Марцінкевіча. Янка Гарчыца з беластоцкай „Лявоніхі" вучыў нас спяваць. Песні падбіралі сабе самі. Пры саветах вучылася са мной выпускніца мінскай тэатральнай школы Тамара Мішакова, бацька якой быў перасяленым сюды ваенным. Няраз супольна праводзілі мы час пасля заняткаў. Ад яе пераняла я, між іншым, беларускія танцы. А зноў сяброўка з Беластока, якой сям'ю выселілі з уласнага дома і перавялі ў Міхалова, вучыла мяне танцаваць польку. Яна прыйшла ў нашую школу нічога па-руску не разумеючы. Настаўнікі прапанавалі, каб хтосьці ёй дапамог. Запыталіся Новікавай, якая жыла па-суседску, але тая адмовілася. А я ўстала і кажу так: хаця мне не надта блізка, але я дапамагу. Падумала сабе, вучыўшы яе і сама чамусьці навучуся. Дзяўчына была здольная, хутка вучылася. Мы з ёю пасябравалі.

Рэпетыцыі драматычнага гуртка найчасцей завяршаліся танцамі пры гармоніку. Помню, крылі мы стадолу, я стомлена, бо памагала дахоўку падаваць, яшчэ ўпраўляцца трэба, а тут Гарчыца прыехаў. Я раз-два памылася і бягом на рэпэтыцыю. Якраз дзяўчат мала папрыходзіла, хлопцы танцаваць хочуць, дык бяруць Азябліху да танца. Мужык ніколі не зайздросціў. Для яго найважнейшай была культурная падтрымка мясцовай моладзі. Жыло тут надта многа таленавітых людзей, сярод іх аж чатырох акардэаністаў. Драмгуртoк налічваў каля трыццаці чалавек. Многія з іх паўлюбляліся, пажаніліся. Паспяховая дзейнасць працягвалася да 1963 года. Надакучыла несправядлівасць у БГКТ. Я падзякавала. Гэта была чыста грамадская дзейнасць, я старалася адцягнуць моладзь ад карт і алкаголю, а што так са мной зрабілі...

Усё-такі, няглядзячы на абставіны лёсу, спадарыня Надзя ніколі не здрадзіла ні Богу, ні чалавеку, ні беларускай тоеснасці.

**Іаанна ЧАБАН**

# Паэты ў Баб'яй Гары


Галена Рэент, Пётр Зубрыцкі, Канстанцін Целушэцкі і Тадэвуш Кунцэвіч

Увечары 13 лістапада г.г. у святліцу ў Баб'яй Гары Нараўчанскай гміны на аўтарскую сустрэчу з жыхарамі гэтай вёскі і суседніх прыехалі беларускія паэты Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў ды Канстанцін Целушэцкі і Янка Целушэцкі з Новага Ляўкова.

Арганізатарамі мерапрыемства былі солтыс вёскі Баб'я Гара Пётр Зубрыцкі і дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент. Да прыезду гасцей дзве гадзіны раней у святліцы ў камінку запаліла дровы Ілона Зубрыцкая, жонка солтыса (ураджэнка Старога Ляўкова) і чакала гасцей. Усё дзеля таго, каб было ім цёпла і ўтульна. Ды, каб прывітаць паэтаў!

Прыйшлі старэйшыя жанчыны і мужчыны сярэдняга ўзросту — зараз асноўныя жыхары гэтай вёскі. Моладзі не было. Мабыць, яна вучыцца ў школах і выехала адсюль. Мо яшчэ і таму, што той вечар выпаў у будзённы дзень, у сераду. А яшчэ трэба дадаць, што і аўтобусы ПКС перасталі сюды ездзіць.

Найперш дырэктар ГАК знаёмілася з сабранымі людзьмі і затым з патрэбамі ў абсталяванні баб'ягорскай святліцы. Яна і расказала пра кожнага, хто прыехаў пачытаць свае вершы і апавяданні.

Тадэвуш Кунцэвіч патрапіў хутка наладзіць кантакт са слухачамі. Расказаў пра сваю кніжку „Падляшша — мая старонка" і сустрэчы з чытачамі, між іншым, у Старым Ляўкове, Міхнаўцы, Гайнаўцы, Трасцянцы, Нараўцы і Плянце. Чытаў вершы пра Падляшша і Беласток, пра нашых слаўных людзей, пра вясковых суседак (яны гумарыстычныя), пра вышываны ручнік. Умее ён пісаць вершы на заказ.

Пра ранейшае жыццё ў вёсцы (недзе паўвека таму) распавядае ў сваіх вершах Канстанцін Целушэцкі. Ён — ураджэнец вёскі, добра ведае як раней сяляне жылі пры лямпе-газоўцы ды цяжка працавалі ў полі і на сенажаці. Як касілі касой, малацілі жыта цэпам, малолі муку



ў жорнах. Пра гэта і піша. Але не толькі. У яго вершах — успамін пра колішняе цяжкае жніво ў спёцы, але і прагучаць радасныя Каляды і Вялікдзень, якія яму запомніліся з дзяцінства. У яго шмат прыгожых прыродаапісальных вершаў. Гэта, між іншым, ад таго, што ён заўзяты вудзільшчык і грыбнік. Не любіць ён гарадской мітусні. «Мне, каб па лесе пахадзіць, — кажа. — Вось дзе найлепш сябе адчуваю». Яму ў горадзе непрывычна.

Мала часу аставілі яны трэцяму літаратару Янку Целушэцкаму, аўтару паэтычнага зборніка „Імгненні". Яго творы друкаваліся ў двух альманахах ды ў кніжных выданнях беларускіх календароў. Але ўсё ж прачытаў ён і верш, і абразок, і невялікае апавяданне. Гэта былі ўжо іншыя па жанры і форме творы ад тых, якія чыталі Тадэвуш і Канстанцін. Слухачы хутка гэта заўважылі і выказалі ўголас.

Дзве гадзіны хутка праляцелі. Прыемна было выступаючым, што іх уважліва слухалі і часта ўзнагароджвалі апладысментамі. Яны шчыра дзякуюць за цёплы і мілы прыём. Тадэвуш Кунцэвіч паабяцаў напісаць верш пра Баб'ю Гару (у ёй 22 дамы і паўсотні жыхароў), пра яе маляўнічае наваколле (тут і невялічкія вёсачкі Баравыя і Семенякоўшчына, якую па-тутэйшаму называюць Мядзвядзі) і пра мясцовых людзей. Цікавінка ёсць такая: кажуць, што ў 1854 годзе ў сяле (яно на ўзвышшы) жылі самыя жанчыны (бабы) і па гэтай прычыне прынялася назва гэтай вёскі Баб'я Гара.

На заканчэнне аўтарскай вечарыны ўсім ахвотным быць на фота ў „Ніве" зрабілі памятны здымак.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

***Кастусь ЦЕЛУШЭЦКІ***

## Забава

*На забаве ў Семяноўцы*
*Файны хлопец усміхнуўся,*
*Падышоў, узяў гуляць.*
*Ну, харошчага не спаткаць!*

*Рослы, смелы і вясёлы,*
*З мараў кандыдат-саколік.*
*Стаў мяне ён прыціскаць.*
*Як прыемна танцаваць!*

*І дахаты мяне павёў,*
*Усю дарогу штось ён плёў.*
*Сталі мы ўжо расставацца,*
*Давай са мною цалавацца.*

*Да сябе ён прыціскаў,*
*У суботу сватоў абяцаў:*
*„Будзеш жоначкай маей,*
*Каб хутчэй, ах, каб хутчэй!"*

*Павярнуўся ён дахаты.*
*Можа ёсць ён і багаты?*
*Я не знаю што сказаць,*
*Ці мне бегчы, ці скакаць?..*

## Кароўка

*„Бабо, уцякла мне кароўка!"*
*„А што ж сталася?"*
*– „Парвалася вяроўка!*
*Памажы ты мне хутчэй,*
*Бо ўцячэ нам із вачэй!*

*„Бабо, давай новую вяроўку!"*
*Злапаў ён за хвост кароўку.*
*Калі баба падышла,*
*Кароўка зноўку ўцякла.*

*Баба дзеда лае:*
*„Хто ж за хвост лапае?!."*
*Нямнога часу прайшло, а сама*
*Кароўка ў свой хлеў зайшла.*

## Агарод восенню

*Лета хутка праляцела,*
*У агародзе ўсё паспела.*
*У небе жураўлі раскрычаліся,*
*У вырай адляцець шыкаваліся.*
*Давай, бабка, усё збіраць,*
*Бо зіму ўжо відаць.*
*Бульбу з поля дакапалі,*
*Моркву, буракі схавалі.*
*Калі ўсё з агарода ўбралі,*
*Утомлены, на лаўцы селі:*
*– Бачыш, дзедку, і мы ўжо даспелі...*

## Куліг

*Выехала саней з сем.*
*Хочацца ў куліг усім.*
*У густым лесе на палянцы*
*Зробім разам мы гулянку.*

*Распалім касцёр мы велькі,*
*Дастанем закусь і бутэлькі,*
*Каўбасу, саланіну, піва...*
*Кожны рады – бо й не дзіва.*

*Песенькі харошы знаем,*
*Весела іх усе спяваем...*
*Лес таксама памагаў,*
*Сваім рэхам падпяваў.*

## Падзяка для „Нівы"

З вялікай прыемнасцю прачытаў я ў „Ніве" артыкул Адама Бобрыка „Польска-беларускія святкаванні 70-й гадавіны бітвы пад Леніна". Гэта вялікая падзея як для беларусаў, так і для палякаў. Змагаліся мы разам супраць супольнага ворага — гітлераўскай Нямеччыны. Ваявалі мы для супольнай справы — вызвалення Еўропы з няволі нацыстаў, якія хацелі нашыя славянскія народы знішчыць, зрабіць іх нявольнікамі. Сёння людзі штораз менш помняць аб жудасцях, учыненых III Рэйхам. Мільёны забітых палякаў і беларусаў, тысячы спаленых вёсак і гарадоў, страты, якіх ніколі не кампенсаваць. Леніна — гэта сімвал нашага братэрства. Сёння можа яно быць адным з памостаў паміж нашымі народамі. У час святкаванняў, у якіх я ўдзельнічаў, асабліва ўзрадаваў мяне шматлікі ўдзел моладзі. Гэта ж яны будуць ствараць будучыню. Саюз палякаў і беларусаў — шлях да поспеху. Радуе, што шукаем таго, што спалучае нас, а не таго, што дзеліць.

Аднак устрывожыла мяне тое, што перад выездам у Леніна 11 кастрычніка дарэмна я шукаў у польскай прэсе (выключэнне: штодзёнка „Dziennik Trybuna") хаця б найменшай інфармацыі на тэму пераможнай бітвы, якая стала пачаткам баявога шляху Народнага Войска Польскага, які закончыўся ўзяццем Берліна. Таму прыемнай нечаканасцю для мяне была цэлая старонка, адведзеная бітве І Пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі пад Леніна ў беларускай ваеннай газеце „Во славу Родины" ад 12 кастрычніка 2013 г., выдаванай Міністэрствам абароны Беларусі. У артыкуле „Боевое испытание под Ленино" апісана гісторыя гэтай вайсковай часці, праілюстраваная здымкамі таго часу. На здымку з прысягі ў Сельцах над Акой стаяць побач сябе бацька і сын. Бачыў я гэты здымак няраз у польскіх гістарычных выданнях і артыкулах. Змешчаны таксама здымак танка Т-34 з польскім экіпажам у час парада пасля прысягі. Апублікаваны таксама фатаграфія ген. Зыгмунта Берлінга ў атачэнні штабных афіцэраў дывізіі, здымак помніка польскім жаўнерам, загінуўшым пад Леніна і аверс памятнага медаля з нагоды чарговай гадавіны бітвы.

Пасля вяртання з Беларусі пазнаёміўся я са сціплымі паведамленнямі аб святкаваннях у СМІ. Толькі штодзёнка „Dziennik Trybuna" і штотыднёвік „Przegląd" адвялі больш месца гэтай падзеі. Вельмі я ўсцешыўся артыкулам у „Ніве". Сапраўды я ўзрушыўся. Ваша публікацыя сведчыць аб ахвоце падтрымліваць гістарычную памяць і імкненні развіваць сапраўдную дружбу паміж нашымі, польскім і беларускім, народамі. За гэта „Ніве" выказваю асаблівую падзяку.

**Багдан Тадэвуш Пакроўскі,**
**дыпламаваны падпалкоўнік запаса**

## Брудныя дашкі

На прыпынках аўтобусаў гарадской камунікацыі ў Беластоку на шматлікіх вуліцах перш-наперш у цэнтры горада пабудавалі лёгкія, прыгожыя дашкі-паветкі. Але, па ўсім відаць, пра іх мала клапоцяцца. Зараз прыстрэшкі брудныя, запыленыя і запэцканыя. Зверху на некаторых з іх поўна апаўшага лісця.

Напрыклад, гэтак ёсць, між іншым, на вуліцы Каліноўскага побач цэнтральнага парку, кард. Вышынскага, Герояў Монтэ-Касіна, Каперніка, кс. Папялушкі, Арміі Краёвай і іншых.

Дырэкцыя Беластоцкай гарадской камунікацыі павінна неадкладна дашкі памыць. Сёлета вясной іх мылі толькі на вуліцы Сянкевіча. І куды прыемней было чакаць „свайго" аўтобуса на лавачцы пад чыстым дашкам. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Свята бульбы і цвярозы розум!





фота Ганны КАНДРАЦЮК

Пра гэтае свята мог здагадацца кожны, хто 12 лістапада ў абедні час праязджаў праз Арэшкава. Каля школы выстойвала столькі машын, як у які царкоўны фэст.

Спачатку мы не адрознілі маладых матуль ад настаўніц, якія гулялі з дзеткамі.

Усе адчувалі сябе тут гаспадарамі, усе ангажаваліся ў спаборніцтвы і гульні. Так у Арэшкаве адзначалі Свята бульбы.

Вельмі ўразіў нас „мужчынскі куточак". Вось, калі дзяўчаткі весела гулялі з матулямі і настаўніцамі, хлапчукі кругом абселі бацюшку і слухалі кожнае яго слова. Папраўдзе, яны даглядалі вогнішча. Пасля спаборніцтваў пайшлі ўзнагароды, грыляванне, песні. Адным з атракцыёнаў было таксама ўручэнне ўзнагарод „Зоркі", якія выйгралі арэшкаўскія вучні.

Свята бульбы спалучылі тут з мудрай акцыяй. Цягам мінулага месяца ў школе праводзілі конкурсы на антыалкагольную тэму. Вучні самі зрабілі плакаты. Запрасілі на сустрэчу спецыялістаў, якія распавялі пра злоўжыванне алкаголем, асабліва ў маладых гадах.

Дзеткі ўдзельнічалі ў мастацкіх конкурсах, дзе прыдумвалі лозунгі пра шкоднасць алкаголю. Між іншым, яны размалявалі графіці пры мясцовым магазіне!

Для самых амбітных настаўнікі прапанавалі конкурс ведаў пра шкоднасць алкаголю ды сачыненне на тэму „цвярозага розуму". Іншыя вучні пайшлі ў народ, каб распытаць дарослых, што яны думаюць пра моладзь і падлеткаў у нецвярозым стане!

Усе лекцыі, сустрэчы і конкурсы мелі стаць цэнным абярэгам на будучыню. Важна, каб дацаніць свой розум і не паўтараць памылак іншых.

Вельмі смакавіта і ў вясёлай атмасферы адбылося самое заўяршэнне конкурсу — якраз у спалучэнні са Святам бульбы. Усе ўдзельнікі, апрача добрай гульні, атрымалі ўзнагароды.

Маленькая школа ў Арэшкаве зноў зрабіла вялікую справу!

ЗОРКА

## Увага, конкурс!!! Загадкі з роднай хаткі (№ 47-13)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 1 снежня г.г. , найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**
*Усе паны*
*паскідалі жупаны,*
*толькі трое*
*у зялёных*
*стаяць*
*( с...а, ё...а, яд...ц)*

**2.**
*Улетку шэранькі,*
*узімку беленькі,*
*доўгія вушы мае,*
*хутка ў лес уцякае.*
*(з...)*

**3.**
*Пад соснамі,*
*пад ёлкамі*
*ляжыць клубок*
*з іголкамі*
*(в....)*

Адказ на загадкі № 41-13: авечка, індык. Узнагароды, набор аўтаручак, выйгралі **Марыся Куклік** і **Куба Марчук**. Віншуем!

*Святлана Іванова*

Выйшаў хлопчык на падворак:
Колькі ў небе свеціць зорак
І падміргваюць яму
Можа і яшчэ каму?

— Мама, мама, паглядзі:
Там — цар неба, маладзік!
Кажа маці: — Ах, дзіцятка,
Без цябе сумуе матка.

Ідзі, Юрачка, дадому,
Трэба ўночку спаць малому.
Ідзі, сонейка, у хатку
І сагрэй мяне і татку.

## Оля — першая!




Сёння ў нас прыемная нагода. Наша сяброўка Оля Пугацэвіч выйграла ваяводскі „Бег незалежнасці". Яна прыняла ўдзел у гонках арганізаваных для школьнікаў і дарослых па вуліцах Беластока. Спаборніцтва адбылося 9 лістапада, напярэдадні Дня незалежнасці Польшчы. У ім прынялі ўдзел тысячы бегуноў — малыя, моладзь, дарослыя, старыя...

Асобная катэгорыя належала „сямейным гонкам" — тут патрабавалі прынамсі трох членаў сям'і. Найчасцей, з дачушкай ці сынком, трасу адольвалі тата і мама. Гэты прыгожы і карысны від спорту можа прынесці не толькі радасць сямейцы, але і годнае адзначэнне дзяржаўных святаў.

Наша Волечка ўжо чарговы раз займае прэстыжныя месцы ў ваяводскіх бегах. Яна таксама іграе ў музычным спектаклі „Звярнікі з глыбінкі", які ставяць беластоцкія навучэнцы беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку.

ЗОРКА

# Папоўка. 70 гадоў у памяці.

Вучні Публічнай гімназіі ў Гарадку расказваюць аб трагічнай гісторыі сваіх продкаў. Знялі яны дакументальную кінастужку аб закатаваных нацыстамі ў час вайны жыхарах вёскі Папоўка.

Думка, каб заняцца гэтай тэмай, узнікла ў галовах гімназістаў у ліпені гэтага года, падчас урачыстасцей з нагоды сямідзесятай гадавіны трагічных падзей. Моладзь пад кіраўніцтвам кінематаграфіста Міхала Грэся і пры дапамозе настаўніцы польскай мовы Ірэны Матысюк стварылі фільм, у якім аб жудасных падзеях расказваюць пяменнікі, жыхары навакольных вёсак ды аматары мясцовай гісторыі. Над рэалізацыяй фільма працавалі Якуб Грэсь, Дамініка Канончук, Данель С'яргі, Патрыцыя Карлаў, Наталля Мартынюк, Марта Франкоўская і Сандра Казлоўская. Музычную стужку для фільма падрыхтавала Габрыеля Юлія Налівайка.

— Наша праца заключалася ў тым, каб адкрыць усе факты, звязаныя з гэтай гісторыяй, — сказаў адзін з творцаў стужкі Данель С'яргі. — Гэтым фільмам хочам звярнуць увагу маладога пакалення на трагічныя падзеі, якія адбываліся на гэтай тэрыторыі ў час вайны.



3 ліпеня 1943 года нямецкія жандары расстралялі амаль усіх жыхароў Папоўкі. Загінула тады 37 чалавек, у тым ліку 16 дзяцей. Выратавалася толькі адна дзяўчынка, якая, паводле адных, схавалася ў печы, паводле іншых, уцякла ў збожжа. Немцы ў зверскі спосаб пакаралі жыхароў Папоўкі за дапамогу партызанам, якія хаваліся ў навакольных лясах Кнышынскай пушчы.

Фільм „Папоўка. 70 гадоў у памяці" меў сваю прэм'еру падчас урачыстасці адкрыцця новага помніка на магіле замардаваных у Каралёвым Мосце. Гімназістам, якія рэалізавалі фільм, падзякавалі прадстаўнікі сем'яў ахвяр ды войт гміны Веслаў Кулеша, які ўручыў ім дыпломы і падарункі.

**Лукаш ЛЕАНЮК**

## ЛЕГЕНДА КАХАННЯ

...Дзесьці непадалёк сустрэліся юнак і дзяўчына. Суджана было ім спаткацца, моцна пакахаць адзін аднаго, ды не выпаў лёс застацца на ўсё жыццё разам. Бяды не здарылася б, каб не краса дзяўчыны. Была яна гнуткага стану, з доўгай чорнай касой і вабным, нібы раніца, тварам. Заўважыў красуню адзін мецэнат з радзівілаўскіх палацаў. І вырашыў забраць „пекную" дзяўчыну іграць у панскіх „балетах".

Пахіліліся ў горы юнак і дзяўчына. Бязвоблачнае неба іх сонечных дзён зацягнулася чорнаю хмарай. Пра жаніцьбу нельга было і думаць. Набліжаўся дзень апошняй сустрэчы. Сэрцы, поўныя кахання, напаўняліся вялікім жалем і смуткам. І вось аднойчы юнак і дзяўчына спаткаліся, каб разлучыцца назаўсёды. Ніхто не чуў і не ведае, колькі слоў было сказана ім, колькі слёз пралілося з яе вачэй. Толькі дуб і сасна, штораслі побач, былі сведкамі гэтай сустрэчы. Нават праняў пякучы боль чалавечых сэрцаў, апёк агонь нязведанага пачуцця. У жальбе і спачуванні людскому гору дрэвы міжволі пахінуліся адно да аднаго, перапляліся ствaламі ў цесным абдымку, нібыта шчаслівыя ад таго, што ім не пагражала пакутлівая гадзіна расстання. Так і засталіся стаяць, перашэптваючыся ў кронах, поўныя таямнічага пачуцця...

**(Легенды Белай Русі)**

## Вершы Віктара Шведа

### Хлопец ці дзяўчына?

Доўгавалосы Валодзя
Са сваёй дзяўчынай ходзіць
І думае заўсёды,
Што няма бацькоў згоды.

Ён дзяўчыну пытае,
Як яго бацькі ўспрымаюць?
— Мае бацькі няспынна
Думаюць што ты дзяўчына.

### Дагаварыліся

Спыталі селяніна:
— Ці маеце Вы сына?
— Вядома, сына маю,
Надта яго кахаю.

— А ці ён п'е, ці курыць?
— Гэта не ў яго натуры.
— А колькі гадкоў мае?
— Ужо трэці мінае.

## Языкаломка „Таня"

Т пытала ў Тані:
— Та-та-та — што такое?
— Татаў трактар.
— Тук-тук-тук — хто так тукае?
— Стракаты дзятлік.
— Тах-тах-тах — што так тахкае?
— Толікаў кулямёт.
— Ту-ту-ту — што так тутукае?
— Братава таксі.
— Тэп-тэп-тэп — хто так тэпае?
— Таня туфлікамі.
— Таня, ты не стамілася адказваць на пытанні?
— Не стамілася.
— Т тармосіць Таню:
— Таня, табе тэрмінова трэба ў школу.
— Таня тлумачыць:
— Туды праз тыдзень патэпаю!

*(паводле У. Ліпскага)*



## Польска-беларуская крыжаванка № 47

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклеенным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 43:

Лістапад, рыса, цэзар, ты, клей, ха, клён, бот, нагода. Цыкл, лён, змена, ара, пара, бо, ход, даплата. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Габрыеля Торка, Аляксандра Салавянюк, Аляксандра Юзафовіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Радаслаў Васько** з Гайнаўкі, **Рафал Новік** з Нараўкі, **Марыя Варанчук** з Арэшкава, **Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага, **Юстына Вайцяхоўская, Моніка Суровец** з Бабікаў. Віншуем!



## Рарытэтны занятак Яна Мароза



Адам Міцкевіч у інвакацыі да „Пана Тадэвуша" выказаў глыбокую тугу па зялёных лугах ды блакітным Нёмане, па Навагрудчыне. У міжваенны перыяд Навагрудак быў цэнтрам ваяводства, у складзе якога быў Баранавіцкі павет, у паўднёвай частцы якога быў горад Ляхавічы. У двух кіламетрах ад Ляхавіч была вёска Млінкі, дзе 20 красавіка 1927 года нарадзіўся мой субяседнік Янка Мароз. Паходзіць ён з сялянскай сям'і, якая гаспадарыла на васьмі гектарах зямлі; у гэтай сям'і раслі таксама ягоныя браты Вінцэнт і Станіслаў.

У Млінках было каля пяцідзесяці хат. Тамашнія дзеці часта бывалі ў Ляхавічах, але вучыліся ў школе ў Новай Мышы каля Баранавіч, дзе беларускай мове вучыў тады Станіслаў Мароз. Пасля школы малады Янка зарабляў грошы, збіраючы і вяжучы лучыну.

Сам горад Ляхавічы быў цягам многіх гадоў уласнасцю магнатаў — Гаштольдаў, Хадкевічаў і Сапегаў. У ляхавіцкім касцёле пахаваны м.інш. Тадэвуш Рэйтан, які на сейме 1773-1775 гадоў супраціўляўся падзелу Польшчы. У 1901 годзе ў Ляхавічах нарадзіўся таксама Сяргей Пясэцкі, вядомы польскі пісьменнік.

Калі пасля вайны родныя мясціны спадара Янкі Мароза апынуліся ў межах Савецкага Саюза і новыя ўлады сталі праводзіць калектывізацыю, ён разам з братам выехаў у Беласток, а адтуль у Ольштын. У Ольштыне Янка Мароз вучыўся ў чыгуначнай школе, а пасля ўладкаваўся на працу на чыгунцы. Там пазнаёміўся з беластачанкай Галінай, з якой завёў сям'ю. Іхні сын Рышард вучыўся ў Мастацкай акадэміі ў класе арганаў і клавікорда, а цяпер жыве і працуе ў Германіі, у Мюнстары.

Сын, наведаўшы аднойчы Ольштын, падказаў бацьку, які на пенсіі стаў праяўляць сталярскія здольнасці, каб паспрабаваў заняцца нечым адмысловым, напрыклад, каб паспрабаваў збудаваць рарытэтны цяпер клавікорд. Клавікорд гэта найдаўнейшы клавішны струнны музычны інструмент, сканструяваны ў XV стагоддзі. Творы для гэтага інструмента пісалі такія славутыя кампазітары як Іаган Себасціян Бах і яго сын Карл Філіп Эмануіл Бах. І так Ян Мароз заняўся вытворчасцю клавікордаў у сваёй багата абсталяванай сталярскай майстэрні. Гэтая праца вельмі карпатлівая і марудная, займае шмат часу. Інструмент мае 68 клавішаў, а механізмы да іх трэба вырабіць вельмі дакладна. А вельмі важны яшчэ і выгляд клавікорда. Для гэтай справы патрэбны не толькі спецыяльны драўнінны матэрыял, але і адмысловы клей, які сын прывозіць яму з Францыі.

Да гэтай пары Ян Мароз зрабіў тры клавікорды. Адзін з іх знаходзіцца ў музычнай школе, на іншым іграе вядучая польская выканаўца даўняй музыкі Марыя Эрдман.

Добрай справай займаецца ўраджэнец Навагрудчыны Ян Мароз. Часам уключае музыку з запісамі беларускай музыкі, музыкі нагадваючай ягоную бацькаўшчыну. Добрага яму здароўя і поспехаў у высакароднай працы.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Драматургія паэзіі прозы




## Некалькі абзацаў пра новую кнігу Віктара Сазонава

Таленавіты гэты хлопец, Віктар Сазонаў. І цікавыя піша ён апавяданні, дзе па-дзедаўску мудра разважае, думае, павучае. Калі я прачытаў яго новую кнігу „Паэзія прозы" (Гародня 2013), то падумаў: які ж добры, цікавы, адукаваны настаўнік атрымаўся б з яго ў якой-небудзь гарадзенскай школе. Сотні дзяцей хадзілі б за ім чарадой, слухалі б яго, вучыліся б мудрасці ў свайго настаўніка Віктара Паўлавіча. Памятаецца, калі быў школьнікам, прачытаў у адной вучнёўскай газеце такую параду: дзеці пытаюцца ў свайго настаўніка, а чаму ў чалавека адзін рот і два вухі. А таму, кажа настаўнік, каб больш слухаць іншых, а менш казаць самому. Віктара Паўлавіча дзеці слухалі б заўсёды.

На вялікі жаль, Віктар Сазонаў настаўнікам у сённяшняй школе працаваць не будзе. Не такую школу ён хоча бачыць у сучаснай Беларусі. Вядома ж, педагогіка яго заўсёды хвалявала і хвалюе. І не толькі школьная, а педагогіка ўсяго нашага жыцця. Але ж у сённяшняй Беларусі педагогіка нацыянальнай школы адсутнічае. Але гэта іншая тэма. Таму вернемся да выдання аўтара.

Кніга Віктара Сазонава „Паэзія прозы" — унікальная. Унікальнанасць яе заключаецца ў тым, што апавяданні і мудрасці Віктара Сазонава вельмі драматургічныя, дзе ў большасці з іх пераважае дыялог. У апавяданні „Паэзія прозы", якое стала і загалоўкам кнігі аўтара, адразу відаць сцэнічныя дыялогі галоўнага героя апавядання Сяргея Касцюкевіча з Пятром і з жонкай. У гэтых дыялогах раскрываюцца вобразы герояў яго апавядання, як у п'есе. У творчым пошуку Сяргей Касцюкевіч, які некалі быў сябрам Руху БНФ „Адраджэнне", а цяпер п'е гарэлку і марыць знайсці формулу паэзіі прозы, гэта значыць, каб проза чыталася так, як паэзія. „Я павінен гэта зрабіць. Як не, то лепей здохну!", — прызнаецца Сяргей. Ды і раздзел „Дзедавы мудрасці" напісаны на дыялогах яго герояў. Гэтыя дыялогі вельмі цікава і хутка чытаюцца. Кожны твор аўтара, на маю думку, нясе ў сабе нейкі вынік, мараль. Аўтар амаль ва ўсіх сваіх абразках і апавяданнях хораша паказвае чалавечы характар. І гэты характар раскрываецца менавіта ў гутарцы герояў. А сэнс моўнага майстэрства Віктара Сазонава заключаецца ў тым, што аўтар умее знайсці самае дакладнае, адзінае слова ці выраз для самавыяўлення героя. „Ухо поразительно чуткое", — так ахарактарызаваў некалі гэта майстэрства рускі паэт беларускага паходжання Аляксандр Твардоўскі. Таму, на маю думку, з Віктара Сазонава мог бы атрымацца добры драматург, які пісаў бы для нашых тэатраў вартыя ў сённяшні час камедыі ці трагікамедыі — такія вымалёўваюцца па апавяданнях жанры яго драматургіі. Але гарадзенскі аўтар піша прозу — сучасную, разважлівую і далікатную, чытаючы якую — трэба думаць.

У беларускай літаратуры жанр вясковай прозы значна адрозніваецца ад усіх астатніх. У чым прычына такога адрознення? Пра гэта можна разважаць доўга, але ўсё ж немагчыма будзе прыйсці да нейкага агульнага выніку. Мне здаецца, гэта адбываецца таму, што рамкі гэтага жанру могуць і не змяшчацца ў межах апісання аднаго вясковага жыцця. Пад гэты жанр могуць падыходзіць і творы, у якіх галоўны герой зусім не вясковец, але па духу і па ідэі твор з'яўляецца менавіта вясковай прозай. Гэта датычыць і прозы Віктара Сазонава. У яго самымі мудрымі героямі амаль заўсёды з'яўляюцца вяскоўцы, асабліва старыя людзі, якія пражылі шмат гадоў і на сваім вяку многа чаго рознага пабачылі. Вось, напрыклад, чаму людзі сёння шмат п'юць? А? А дзед Валодзя — герой абразка „Чаму людзі п'юць", ведае. „А людзі п'юць па прычыне простай. Таму што гэты свет па цвярозыя вочы не выглядае і не здаецца ім лепшым", — разважае ён. Ці дзед Яська ўсім дае свой мудры адказ-параду: „Ляжаць буду столькі, колькі змагу. Бо чым пазней падымуся, тым меней награшу".

Праўда, я не магу прозу Віктара Сазонава назваць цалкам вясковай, бо гэта будзе памылкай. Магчыма гэта вяскова-гарадская філасофская проза. Тым не менш вёска скразною лініяй праходзіць праз усю кнігу аўтара. Праходзіць сваёй мудрасцю і філасофскай прастатой. Аўтара сёння хвалююць пытанні маральнасці, любові да роднай зямлі, добрых адносін да людзей, да сваёй гісторыі, да сваёй Бацькаўшчыны. І мае рацыю Уладзімір Хільмановіч, які ў прадмове да кнігі сказаў, „што гэта погляд аўтара ў нядаўнюю мінуўшчыну, дзе жыццёвы досвед і народная мудрасць перадаваліся вусна, ад спрактыкаваных дзядоў да малых унукаў...".

Сазонаўскі герой — мудры, рахманы, разважлівы. А зямля — паэтычны шматзначны вобраз у мастацтве Сазонава: дом родны, хата, зямля, сям'я, Бацькаўшчына. Народна-вобразныя асацыяцыі і ўспрыняцці ствараюць суцэльную сістэму паняццяў нацыянальных, гістарычных, філасофскіх і духоўных: пра жыццё, праблемы, п'янства, розум і вопыт. Але вобраз Радзімы, любові да яе становяцца цэнтрам прыцягнення ўсяго зместу кнігі празаіка: асноўных калізій, мастацкіх канцэпцый, маральна-эстэтычных ідэалаў і паэтыкі. Чытаю „Камяні". Супер! Моцнае параўнанне, ёсць над чым паразважаць і падумаць. І ўсё ж не толькі — „абы бульба была" для беларусаў. Для нас важна, каб мы не забывалі сваёй маленькай радзімы, каб мы дома былі і заставаліся на сваёй зямлі не толькі бульбашамі, а беларусамі. Хаця „Камяні" — гэта маленькі гімн нашай бульбе, нашай вёсцы, дзе камяні імкнуцца падтрымліваць баланс. А ён таксама павінен аднаўляцца. Хораша разважае аўтар. Таму да гэтых разваг можа шчыра далучацца кожны беларус, кожны чытач, хто хоча зразумець аўтара і з ім пагадзіцца ці не пагадзіцца. Беларусы напісалі пра бульбу шмат, як украінцы пра сала. Памятаю ў Алега Лойкі радкі: не сагнешся ў кульбу — не скапаеш бульбу. А Міхась Скобла нават напісаў цэлую оду баразне, дзе:

**Пнецца ў сваю баразну маладзён.**
**Пнецца дзядок, хоць і ўспёрся**
**на кульбу.**
**Хоць над ляском ужо месяц відзён,**
**Людзі шукаюць, як золата, бульбу...**

Але прычым тут бульба, калі галоўнае — быць і заставацца на гэтай роднай зямлі людзьмі і гаспадарамі, каб на нашых сталах заўсёды былі не толькі бульба і цыбуля, хлеб, малако, а таксама лемантар на роднай мове.

У творах Віктара Сазонава, якія склалі „Паэзію прозы", усё часцей гучыць гарачы, шчыры аўтарскі голас, звернуты да чытачоў. Аўтар стараецца пачаць гутарку пра самае галоўнае, пра тое, што набалела. Ён нібы адчувае, што яго героі не ўсе могуць выказаць тое, аб чым трэба абавязкова сказаць. Таму яго мудрасці і апавяданні — гэта аўтарскае слова пра сэнс нашага сённяшняга жыцця. Хаця адны загалоўкі яго празаічных твораў „Суткі стажора", „Паштоўка палітвязню", „Навука для галодных", „Нехта лжэ, а дурні вераць" і іншыя наводзяць на думку, што жывецца нам няпроста. Хаця мастацтва ўсё ж павінна вучыць дабру. І яно некалі дапаможа перамагчы зло.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Княства было... Вялікае

**Вялікае Княства Літоўскае апраўдвала сваю назву да 1569 года, да Люблінскай уніі, калі вялікія яго абшары былі інкарпараваны ў склад Кароны. У ліку зямель, якія памянялі ў той час дзяржаўную прыналежнасць з літоўскай на польскую, апынулася і Падляшскае ваяводства. Праўда, яно ў той час выглядала сваім тапаграфічным кшталтам вельмі адрозна ад сённяшняга аднайменнага ваяводства. З поўначы ахоплівала яно Аўгустаў, з усходу Нарву, з захаду Венграў, а з поўдня Вогінь; ад апошняга да Любліна ўсяго шэсцьдзесят кіламетраў — як з Беластока ў Гайнаўку...**


Даўняя вогінская царква


Даўняя царква ў Бязволі

Якім чынам Вогінь апынуўся ў складзе Падляшскага ваяводства, гісторыкі яшчэ дакладна не даведаліся. Некаторыя лічаць, што быў ён свайго роду фарпостам тагачаснай берасцейскай крэпасці. Упершыню Вогінь згадваецца пад назвай Воін у Іпацьеўскім летапісе пад 1282 годам як аб'ект змагання паміж сандомірскім і ўладзімірскім князямі, паміж тагачаснымі прадстаўнікамі Захаду і Усходу...

Анджэй Гіль у працы „Parafie Kościoła wschodniego w Wohyniu” пісаў: „Region ten zamieszkany był przez miejscową ludność ruską wyznającą prawosławie i należał do brzeskiej części eparchii włodzimierskiej. Stałym elementem dziejów tego regionu były spory terytorialne, powodujące ciągłe waśnie i zadrażnienia, częstokroć przeradzające się w otwarte konflikty, których przedmiotem były ziemia i zamieszkujący ją ludzie. Szczególnie ten zakątek pogranicza charakteryzował się małą stabilnością przynależności administracyjnej. W 1447 r. Kazimierz Jagiellończyk podjął oprotestowywaną później wielokrotnie decyzję o przekazaniu tego obszaru Litwie”.

Змаганне за Вогінь цягнулася чарговыя стагоддзі, да таго ж на розных узроўнях. У 1546 годзе адбывалася адна з дэлімітацый граніц побач Вогіня паміж Каронай і Вялікім Княствам, паміж Люблінскім, у складзе першай, і Берасцейскім, у складзе другога, паветамі, паміж Вогінем і Парчавам: „Лета Божего Нароженья 1546 месяца Августа 3 День у волторокъ за розказаньемъ короля его милости великого князя Жикгимонта Августа стался пописъ границъ и шкод межи великого княжства Литовского и Коруны Польское”. Гэты „попіс” доўжыўся некалькі дзён, у ходзе якіх сведкі „шляхетнага роду” з абодвух бакоў давалі надта супрацьлеглыя паказанні наконт узаемных межаў, спасылаючыся пры тым на сандомірскага ваяводу Яна Тэнчынскага з аднаго боку і на ваяводу наваградскага Аляксандра Хадкевіча з другога: „Врадникъ Воинский Сума изъ людьми Воинскими тые копцы (гранічныя) розсыпали, а то въ тотъ обычай, ижъ панъ воевода Судомирскій росказалъ сыпати копцы по властнымъ землямъ на кгрунтъ великого князства двора Воинского. И мы жаловали королю его милости и пану старосте Берестейскому, и тые копцы семо розсыпали за вижомъ пана старосты Берестейского, яко жъ листъ господарский и листы пана воеводы Новгородского на то оказывали, ижъ, за тыми листы и за розказаньемъ господарскимъ, тые копцы роскопали”.

Змаганне адбывалася не толькі ў свецкім, але і ў канфесійным плане. Польскі гісторык Леан Васілеўскі, у прыватнасці бацька Ванды Васілеўскай, адной з найбольш вядомых дзеячак польскага камуністычнага руху перыяду Другой сусветнай вайны, так быў пісаў пра землі, што ў наваколлі Вогіня: „Cała ta połać kraju od dawna miała ludność mieszaną, gdyż kraj między Bugiem a Wieprzem był kolonizowany jednocześnie i od zachodu i od wschodu. Wzdłuż dolnego biegu Wieprza i Bugu osiedlali się Polacy, wzdłuż górnego biegu tych rzek posuwała się kolonizacja ruska. Wielowiekowe współżycie tych odrębnych, choć tak pokrewnych, szczepów musiało odbić sie na każdym z nich. Odbywało się stale przesiąkanie wzajemne żywiołów polskiego i ruskiego, zwłaszcza od czasu, kiedy Unia religijna ułatwiła wzajemne oddziaływanie chociażby drogą wzajemnego kojarzenia się w stadła małżeńskie Polaków i Rusinów, kiedy różnice między kościołem rzymskokatolickim a cerkwią unicką stopniowo się zacierały, i kiedy kultura polska powoli ogarniała coraz głębsze warstwy społeczności ruskiej. Duchowieństwo unickie stało się polskiem, do polskości przylgnęła znaczna część mieszczaństwa, nie mówiąc już o szlachcie. Tylko unickie masy chłopskie pozostały ruskiemi, ale i wśród nich polskość poczyniła była pewne postępy już do połowy wieku XIX, choć do najwyższej potęgi proces polszczenia się ludności unickiej doszedł po ostatecznym dopiero skasowaniu Unii przez rząd rosyjski w ósmym dziesięcioleciu wieku XIX. Wszystkie zaburzenia poczynały się od tego, że lud, a szczególniej kobiety, nie słysząc w czasie nabożeństwa gry na organach, podnosiły hałas i krzyk, łając ołtarzystę, dyaczka i księdza, przyczem zamykano kościół i nie wpuszczano doń nikogo, zbierając się od czasu do czasu na podwórzu kościelnem dla śpiewania pieśni polskich. Ponieważ „oporni” bojkotowali cerkwie prawosławne i popów, przeto nie posiadali żadnych uznawanych przez rząd aktów chrztu, ślubu lub zejścia. Prowadziło to do niesłychanego skomplikowania stosunków i było źródłem strasznych utrapień „opornych” przy spadkobraniu i t. d., gdyż dzieci rodziców, połączonych ślubami „krakowskimi” [касцельнымі — А. В.], uważane były za nieprawe. Taki stan rzeczy wywoływał zjawiska wprost potworne, np. między innemi olbrzymią ilość pożarów w miejscowościach pounickich: to rodzice „oporni”, chcąc w jakikolwiek sposób wyposażyć potomstwo, któremu rząd zaprzeczał prawa dziedzictwa, dobrowolnie palili swe zagrody, aby wzięte od instytucyi asekuracyjnych odszkodowanie rozdzielić między dzieci. W walce tej, obfitującej w moc tragicznych epizodów, Ruś unicka opowiedziała się po stronie Polski. Rusini, przyjmując męczeństwo za wiarę, zespalali się duchowo z Polską, choć może nieraz po polsku nie mówili. To też w dobie prześladowania Unii, od r. 1874 do 1905, proces polonizacyi Podlasia i Chełmszczyzny poczynił postępy daleko większe, aniżeli w ciągu całego wieku poprzedniego. Ciążący całą duszą do polskości Rusin wyrzekał się raz na zawsze Unii, widząc, jak ją łatwo Moskal przeobraża na prawosławie i lgnął do „czysto polskiej wiary” — katolicyzmu”.

Канфесійнае змаганне адбывалася метадам бізуна і перніка: уладары інакш ставіліся да знаці, прываблiваючы яе „пернікам”, а інакш да грамадскіх нізоў, заганяючы іх пад сваё ўладанне „бізуном”. Газета „Kraj” з 1884 года была пісала: „Hrabiemu Kazimierzowi Łubieńskiemu kazano sprzedać dobra swe w guberni siedleckiej i wraz z rodziną wyjechać zagranicę, jako podejrzanemu o tajne popieranie „unitów”. Według jednych hr. Ł. wyrzucał im przyłączenie sie do prawosławja, inni zeznają, że hrabia doradzał nie zachowywać obrządków i robił nadzieję, że unja zostanie przywróconą; jeszcze inni twierdzili, że hrabia dopomagał do wyjazdów zagranicę młodym ludziom dla zawierania tam tak zwanych „krakowskich ślubów” (nieuznanych przez prawo), żeby tylko nie dopuścić do zawierania tych ślubów w cerkwiach prawosławnych. Co się zaś tyczy wyroku zapadłego na hr. Ł., to hrabiego wcale nie zobowiązano sprzedać swe dobra i wyjechać zagranicę, lecz kazano wyjechać z dóbr Jabłoń [у дваццаці пяці кіламетрах ад Вогіня — А. В.] i nie powracać tam w ciągu dwóch lat, mieszkać zaś pozwolono gdzie mu się podoba”.

Фінал канфесійнага змагання наступіў у 1905 годзе; партал Вогінскай гміны: „Unici, pozbawieni kapłanów greckokatolickich, bez wyjątku przyjęli obrządek łaciński i powiększyli liczbę wiernych parafii św. Anny prawie pięciokrotnie”. А гэта папросту абазначае, што яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя верных усходняга абраду было ў Вогіне ў чатыры разы больш, чым вернікаў заходнягя абраду.

Ці ў Вогіне захавалася нешта з даўняй усходняй спадчыны? Анджэй Гіль: „Zagadnienie to nie doczekało się szerszych opracowań monograficznych, a poświęcone mu przyczynki raczej zaciemniają rzeczywisty obraz niż wnoszą coś nowego do znajomości problemu. Na takie podejście wpływają późniejsze losy tych ziem, w tym okres prześladowań religijnych w okresie po likwidacji unii w latach siedemdziesiątych XIX w., wyznaczające pewien specyficzny kąt widzenia ich przeszłości historycznej w kontekście przede wszystkim walki z rusyfikacją i obrona swoiście pojmowanego polskiego punktu widzenia”.

З архітэктурнай спадчыны засталася ў Вогіне колішняя ўніяцкая царква; партал Вогінскай гміны: „Świątynia pod wezwaniem św. Dymitra była usytuowana w miejscu, gdzie obecnie stoi Zespół Szkół im. Unitów Podlaskich. Na cmentarz została przeniesiona w 1849 r. Jest to najstarsza świątynia w naszej gminie. W 1998 r. wykonano remont kościółka oraz odrestaurowano trzy oryginalne ołtarze unickie z ikonami. Do czasu remontu kościół traktowany był jako kaplica cmentarna. W kościele trzy razy w roku odbywają się nabożeństwa (we wrześniu podczas odpustu w święto Matki Bożej Bolesnej oraz 1listopada w Dniu Wszystkich Świętych i 2 listopada w Dzień Zaduszny)”. Побач даўняй царкоўкі цэментны намагільнік праваслаўнага святара з кірылічнай эпітафіяй. У прылягаючай да Вогіня Бязволі стаіць драўляная былая ўніяцкая царкоўка, узведзеная ў 1728 годзе, якая ў 1995 годзе часткова згарэла, але зараз жа была адбудавана і надалей служыць тамашнім цяперашнім вернікам. Каля паўкіламетра ад яе захаваліся старыя могілкі...

І яшчэ вытрымка са *Слоўніка Каралеўства Польскага*: „Jest to stara osada, od której otrzymał nazwę „trakt wohyński”, zaliczony w r. 1576 do Korony, podczas gdy Litwini uważali go za przynależność Litwy. Data założenia cerkwi nieznana. Jan Kazimierz wydał dla niej w r. 1661 przywilej na posiadanie nadanego gruntu. Kościół paraf., pierwotnie drewniany, spłonął r. 1794; teraźniejszy murowany stanął kosztem parafii w r. 1844”. Касцёл стаіць пры гарадскім рынку, а ў рынку помнік тым, якія загінулі ў час апошняй вайны „na polach walki, w obozach koncentracyjnych, w łagrach, więzieniach, lasach, pod ścianami naszych domów i holocaustu...”. Без падзелу на „сваіх” і „чужых”.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Заблытаная наша мінуўшчына (1)



Да чаго ж заблытаная наша тутэйшая беларуская мінуўшчына. Не лепш заблытана яна і ўва ўсёй Беларусі. Дасюль вядучымі афіцыйнымі ацэнкамі беларускай мінуўшчыны з'яўляюцца расійска-савецкая і польская, так бы сказаць, аптацыі. І абедзве яны тэндэнцыйныя, зафальшаваныя. У ацэнцы гэтай мінуўшчыны яны кіруюцца не шуканнем аб'ектыўнай, а ўласнай карысці. Сваёй цвёрдай, незалежнай, нацыянальна карыснай аптацыі на сваю мінуўшчыну ды і будучыню ў беларусаў няма або я яе не ведаю. Тыя, што паяўляліся і паяўляюцца ў асноўным сугучныя з усходняй або заходняй аптацыяй...

Возьмем, накрыклад, такую важную дзялянку нашага беларускага лёсу, як веравызнанне. Гаворачы пра яго, ніяк нельга абмінуць царкоўную унію, бо яна тырчыць у нашай гісторыі як магутны валун на праезджай дарозе.

Хто навязваў беларусам царкоўную унію і хто яе ліквідаваў, і дзеля чаго яны гэта рабілі, здаецца, вядома ўсім. Чым жа абрынулася гэтая рэлігійная камбінацыя нашай нацыі, гэта больш складанае пытанне. Але адказаць на яго абавязкова трэба. І адказаць павінны тыя, якіх яна непасрэдна датычыла. Я, патомак былых уніятаў і сын ужо праваслаўных бацькоў, думаю, маю поўнае права, каб даць свой прысуд уніі.

А часцей за ўсё вяртаюцца да уніі і ацэньваюць яе зноў жа прадстаўнікі тых аптацый, тых нацый, якія або навязвалі нам у мінулым гэтую унію, або яе ліквідавалі. І таму ацэньваецца імі царкоўная унія, як правіла, па прынцыпе: моцна хваліцца яе ўвядзенне і моцна крытыкуецца ліквідацыя або наадварот, хваліцца ліквідацыя і крытыкуецца ўвядзенне. Такі падыход да уніі, па-мойму, памылковы і крыўдны, бо бароніць рацыю толькі той нацыі, якая навязвала беларусам унію або той, якая яе ліквідавала. Зусім не беручы пад увагу рацыі народаў, якіх непасрэдна яна датычыла — гэта значыць беларусаў і ўкраінцаў. А гэта ж яны і толькі яны на ўласнай скуры адчулі і, здаецца, яшчэ доўга будуць адчуваць „дабрадзействы" перахрышчэнняў. Лічу таксама, што царкоўную унію нельга разглядаць асобнымі, адарванымі адзін ад другога фрагментамі — як гэта робяць названыя мною аптацыі, а толькі як адну непадзельную цэласць — ад увядзення да яе ліквідацыі. Бо грэшаць тут абедзве, усходняя і заходняя, аптацыі. Тэарэтыкі ўсходняй аптацыі, напрыклад, даказваюць як гэта нашы няшчасныя продкі, сілай загнаныя ва унію, нецярпліва чакалі дапамогі, каб вырвацца з яе адбымкаў. І, нарэшце, з вялікім аптымізмам і слязамі радасці на вачах дачакаліся яе ліквідацыі ў 1839 годзе. Згадзіцца тут можна толькі з тым, што спачатку яны вельмі чакалі, але, не дачакаўшыся падтрымкі ні ў каралёў, ні ў цароў, з часам звыкліся-зжыліся з новай і чужой ім рэлігіяй. Яна стала іх рэлігіяй, далейшыя пакаленні нават не ведалі, што іх продкі былі праваслаўнымі...

І не мелі рацыі нашы продкі, бо калі ім пачала ўжо падабацца новая рэлігія, якраз перастала яна падабацца новаму цару, усходняму суседу і ўсёй іх аптацыі. І яны рашылі нашых продкаў зрабіць зноў праваслаўнымі. „Как задумано, так было и сделано". А што на гэта наш народ? „А кто спрашивал у народа? Начальству ведь виднее, что лучше народу...".

Пытаеце, што я на гэта? Я не згаджаюся з такім начальствам і такой аптацыяй. І не таму, што нашы продкі сталі зноў праваслаўнымі. Яны ніколі іншымі і не павінны былі быць — гэта ж па волі Божай яны ў дзесятым стагоддзі сталі праваслаўнымі — і такімі павінны аставацца да сканчэння свету...

Я не згаджаюся з метадамі і спосабамі, якімі карысталіся пры ліквідацыі уніі і вяртанню зноў праваслаўя. Былі яны часам грубыя, салдафонскія, нехрысціянскія адным словам. Менавіта такія ж самыя, якімі карысталіся раней пры ліквідацыі праваслаўя і ўвядзенні уніі, бо вера вельмі ж далікатная сфера людской натуры і жыцця. Яе нельга грэшна навязваць насіллем, бізуном — і аб гэтым выразна гаворыцца ў Святым Пісанні. Чаму ж тады так бесцырымонна карысталіся насіллем, навязваючы і ліквідуючы унію?! Бо адны і другія не лічыліся з беларускім народам.

Як бараніўся і ці ўвогуле бараніўся беларускі народ перад такім насіллем? Канешне, бараніўся. Спачатку доўга і ўпарта бараніўся перад увядзеннем уніі, чаго ніяк не хоча заўважыць заходняя аптацыя. А потым бараніўся народ перад скасаваннем яе, чаго ў сваю чаргу не хоча заўважыць усходняя аптацыя. Наш тутэйшы народ таксама прымаў актыўны ўдзел у гэтых змаганнях.

Аб тым, як, напрыклад, уніяты Беласточчыны не хацелі пераходзіць у праваслаўе, гаворыцца ў „Гісторыі Беларусі" нашага земляка прафесара Усевалада Ігнатоўскага: „Праз нейкі час падняўся пратэст у Беластоцкай вобласці. 15 парафій адмовіліся ўводзіць праваслаўныя абрады ў сваіх цэрквах. Было напісана паданне на імя цара, дзе ўніяцкія папы гэтых парафій прасілі рускі ўрад абараніць іх веру ад уціску і гвалту. На чале падаўшых прашэнне сталі: Кляшчэлеўскі пратапоп А. Сасноўскі, Чыжоўскі поп Ф. Гаворскі і Беразоўскі поп А. Панькоўскі. У адказ на паданне пачаліся рэпрэсіі над папамі і парафіямі. Пад іх цяжкасцямі парафіі адна за адной пачалі здавацца і выяўляць сваю пакорнасць начальству...".

Так, уніяцкую веру нашы продкі лічылі ўжо сваёй верай, таму так яны даражылі ёю і баранілі яе. І няма, зрэшты, нічога тут дзіўнага, што баранілі і не хацелі змяніць унію на праваслаўе, бо ўжо шмат пакаленняў былі ўніятамі. Яны — як было ўжо сказана — нават не ведалі, што іх продкі былі праваслаўнымі...

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**

# www.krok-naperad.by



Дзівосы беларускага жыцця працягваюцца — на фоне максімальнага звужэння выкарыстання беларускай мовы знаходзяцца людзі, прычым маладыя, якія пачынаюць заклікаць да шырэйшага выкарыстання беларускага слова. Хто яны і чаму так робяць? На гэтыя пытанні можна знайсці процьму адказаў, і наўрад ці яны будуць слушныя. Бо няма сур'ёзных і рэальных падстаў для развіцця беларускай мовы ў Беларусі! Няма нават сэнсу ёю карыстацца. Ды і народ пакрысе развітваецца з беларушчынай — па даных апошняга перапісу ў параўнанні з папярэднім беларускай мовай у паўсядзённым жыцці карыстаецца ўсё меншая колькасць беларусаў. Ну і лукашэнкаўская ўлада не адстае ў вынішчэнні беларускай мовы з паўсядзённага ўжытку, бо паводле тамтэйшага правіцеля нешта разумнае можна сказаць толькі па-руску і па-англійску.

Але ж карціць некаторым. Хоць ты што хочаш рабі, але лічаць яны, што няма беларусаў без іх мовы, няма беларускай краіны без беларускай гісторыі і культуры, якія пазнаваць лепш за ўсё на беларускай мове, бо менавіта яна, а не „два языка" з'яўляецца душой беларускага народа. І таму ўзнікаюць у іх галовах дзіўныя праекты па папулярызацыі мовы, прычым не толькі ўзнікаюць, але і знаходзяць сваё ўвасабленне ў жыцці, па меншай меры віртуальным.

Адным з прыкладаў такога беларускамоўнага натхнення стаў сайт у інтэрнэце, што мае назву „Крок наперад" і месціцца па адрасе **www.krok-naperad.by.** Яго аўтар і галоўны выканаўца змешчаных там відэаролікаў Юрась Юрчанка заклікае ўсіх прыняць удзел у конкурсе на лепшы відэасюжэт, што мусіць падштурхнуць да большага выкарыстання беларускай мовы.

«„Крок наперад" — гэта першы беларускамоўны анлайн-конкурс відэаролікаў. Кожны, хто жадае, можа прыняць удзел у конкурсе і атрымаць каштоўныя ўзнагароды. Здымі цікавае матываванае відэа на беларускай мове, выкарыстоўваючы спецыяльныя выразы, і перамажы!», — заклікае Юрась з галоўнай старонкі сайта. Прыём відэа ад жадаючых, згодна размешчанай на сайце інфармацыі, цягнецца ад 15 лістапада да 11 снежня 2013 года.

Сайт мае некалькі рубрык, дзе месціцца правілы конкурсу, расповед пра дадзены сацыяльны праект, як стаць яго ўдзельнікам ці партнёрам. „На форме відэароліка я спыніўся таму, што гэта дае вялікія магчымасці для творчасці. Сёння зняць відэа можна з дапамогай разнастайных сродкаў (мабільны тэлефон, вэб-камера, відэакамера альбо фотаапарат)", — распавёў 24-гадовы Юрась Юрчанка ў інтэрв'ю газеце „Наша ніва".

Паводле яго, каб вывучыць беларускую мову, патрэбны вялікія намаганні, але мэта ёсць дасяганальнай — „праз чытанне, слуханне музыкі, перапіску ў Сеціве і асабістыя сустрэчы, удзел у розных культурніцкіх і адукацыйных мерапрыемствах". „Прыкладам таму можа быць мой уласны досвед. Ці мноства іншых прыкладаў, калі людзі прыйшлі да роднай мовы зусім не з падачы школьных настаўнікаў. Канечне, беларускамоўная адукацыя мусіць пашырацца. Але нельга пагарджаць альтэрнатыўнымі спосабамі вывучэння роднай мовы", — кажа Юрчанка.

Нягледзячы на тое, што робіць хлопец добрую справу, не да канца разумее ён сутнасць антыбеларускамоўнай рэчаіснасці, што ўсталявалася, прынамсі, у Беларусі. Ён лічыць, што не варта праблему беларускай мовы зводзіць да ідэйна-палітычнага супрацьстаяння, трэба імкнуцца да дэпалітызацыі беларускасці. Аднак антыбеларускамоўнасць з'яўляецца адной з праяў сённяшняй палітыкі кіруючай эліты, бо інакш былі б у буйных беларускіх гарадах беларускамоўныя школы, прадшколлі, беларускамоўныя ВНУ, шырокае беларускамоўнае асяроддзе.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара



### Аўтар беларускай граматыкі

# 130 гадоў з дня нараджэння Язэпа Лёсіка

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, педагог, пісьменнік Язэп Лёсік нарадзіўся 18 лістапада 1883 г. у вёсцы Мікалаеўшчына (цяпер Стаўбцоўскі раён). Паходзіў ён з сялянскай сям'і і быў родным дзядзькам Якуба Коласа. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, скончыў Ноўгарад-Северскую гарадскую вучэльню (1902). Далей працаваў выкладчыкам Бабруйскай сельскагаспадарчай школы, настаўнічаў у мястэчку Грамяч на Чарнігаўшчыне. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях 1905 г. арыштаваны, зняволены. У 1907 г. прывезены на суд горада Старадуб, але праз некалькі дзён уцёк з мясцовай турмы. Хаваўся ад улад у родных і знаёмых у Стоўбцах, Пецярбургу, на станцыі Красноўка недалёка ад Луганска. У 1911 г. прыехаў у Ноўгарад-Северскі да брата Антона. Тут зноў арыштаваны і прыгавораны да бестэрміновага пасялення ў Сібіры. Пакаранне адбываў у гарадах Кірэнску і Бадайбо Іркуцкай губерні, дзе пазнаёміўся і пасябраваў з Алесем Гаруном. Падтрымліваў сувязь з газетай „Наша ніва".

У Беларусь са ссылкі вярнуўся пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў 1917 г. Стаў адным з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады. Увайшоў у Беларускі нацыянальны камітэт, рэдагаваў яго газету „Вольная Беларусь". На З'ездзе беларускіх арганізацый і партый абраны ў Выканаўчы камітэт Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый. Старшыня Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады беларускіх арганізацый на II з'ездзе ў ліпені 1917 г. Удзельнік Усебеларускага кангрэса 1917 г.

У час акупацыі Беларусі нямецкімі і польскімі войскамі жыў і працаваў у Мінску. Адзін з ініцыятараў акту незалежнасці БНР. Пасля расколу БСГ адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Старшыня прэзідыума Рады БНР з 14 траўня 1918 г. Пасля прыходу бальшавікоў у Мінск у пачатку снежня 1918 года абвешчаны па-за законам разам з іншымі раднымі. У 1919-1920 гг. пісаў у газетах „Звон" і „Беларусь". Пасля расколу Рады БНР на Найвышэйшую раду БНР і Народную раду БНР Язэп Лёсік стаў старшынёй першай.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны застаўся ў БССР. У ліпені 1920 г. пакінуў палітыку. Займаўся навуковай, культурна-асветнай, літаратурнай працай. З ліпеня 1921 г. выкладаў у БДУ, у Белпедтэхнікуме. У 1922 г. абраны правадзейным членам Інстытута беларускай культуры, працаваў у Тэрміналагічнай камісіі. Быў адным з ініцыятараў правядзення Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі ў лістападзе 1926 г. У 1928 г. зацверджаны правадзейным членам Беларускай АН. Быў дырэктарам Інстытуту навуковай мовы.

У 1922 г., пасля выхаду „Практычнай граматыкі беларускае мовы", „Звязда" назвала падручнік „контррэвалюцыйным". У лістападзе 1922 г. Лёсіка арыштавалі, але ў абарону яго выступіў тагачасны нарком асветы БССР Усевалад Ігнатоўскі. Лёсік быў вызвалены. Другі раз яго арыштавалі 20 ліпеня 1930 г. па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Высланы на 5 гадоў у горад Камышын Саратаўскай вобласці. Жыў у горадзе Нікалаеўскі, дзе выкладаў у педтэхнікуме. У лістападзе 1934 г. атрымаў амністыю без дазволу на вяртанне ў Мінск. У 1935 г. пераехаў з сям'ёй на Браншчыну, выкладаў рускую мову ў школе. Восенню 1937 г. перасяліўся ў горад Актарск Саратаўскай вобласці, працаваў у педтэхнікуме. У чэрвені 1938 г. зноў арыштаваны, засуджаны на 5 гадоў канцлагераў. Паводле афіцыйнай версіі, памёр ад сухотаў у саратаўскай турме. Быў поўнасцю рэабілітаваны ў 1988 г.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Недаразуменне з-за непадабенства

Рэпартаж „Наш святы пакутнік з Палічнай”, надрукаваны ў „Ніве” № 41, 42 і 44, выклікаў шмат эмоцый і здагадак у роднай парафіі святога, ды не толькі....

Настаяцель парафіі Уздзвіжання Крыжа Гасподняга ў Вэрстоку а. Павел Кучынскі папрасіў у нас дадаць да напісанага, ад сябе, яшчэ такія словы:

„Як настаяцель, разам з прыхаджанамі, хачу падзякаваць усім людзям добрай волі за ахвярнасць і ангажаванне ў прыдбанні новай Іконы мучаніка Георгія (Сцепанюка) з Палічнай. Важна, што разам мы давялі да таго, што Ікона ўжо аздабляе царкву і што яна асвечаная мірапалітам Савам.

Асаблівую падзяку кіруем у адрас спадарыні Ніны Казачук з Гайнаўкі, сваячкі святога, за яе ангажаванасць і дапамогу”.

Паколькі недаразуменні атрымаліся з прычыны непадабенства святога на дзвюх наяўных ужо ў царкве іконах св. Георгія, настаяцель патлумачыў:

„Ікона — гэта не верны партрэт канкрэтнай асобы, толькі духоўны воблік святога. А хто гэтага не разумее, няхай моліцца Богу аб зразуменні”.

**(гак)**



## Прыгожыя сядзібы ў Ляўкове

10 лістапада г.г. у святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) падсумавалі плебісцыт пад загалоўкам «Прыгожыя сядзібы ў Ляўкове». Арганізавалі яго радныя і солтысы Новага Ляўкова і Старога Ляўкова: Юрый Равінскі, Павел Несцярук, Яўген Бандарук і Ян Целушэцкі. Сёлета ўдзельнічалі ў плебісцыце 42 ляўкоўскія жыхары, у тым ліку найбольш са Старога Ляўкова. Усе яны атрымалі прыгожыя дыпломы з падзякай за эстэтычны выгляд сваіх дамоў, панадворкаў і агародчыкаў. Некаторыя жыхары ўдзельнічалі ў плебісцыце трэці год запар. Год і два таму было іх больш. І, як не скажаш, адно і другое Ляўкова куды папрыгажэлі.

У святліцы ўсіх запрасілі на салодкі пачастунак. Арганізавалі яго кіраўнічка святліцы Крыстына Паскробка і мясцовая бібліятэкарка Аліна Барташук ды дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Галена-Марыёля Рэент.

Падчас мерапрыемства Юрый Равінскі прадэманстраваў кінафільм пра прыгожае прыпушчанскае Старое Ляўкова і яго маляўнічае наваколле. Вёска распалажона на ўзгорку над ракой Нараўкай. За ракой падступаюць лясы Белавежскай пушчы.

Затым сустрэча прадаўжалася пры вогнішчы. На пляцоўцы за керамічнай фабрыкай пад музыку сабраныя смажылі кілбаскі і саланіну. Спажывецкіх прадуктаў і напіткаў мелі ўдоваль. Было прыемна і весела. Мясцовыя самаўрадаўцы будуць арганізаваць больш такіх сустрэч. У іх ёсць намер зімой — а яна ўжо не за гарамі — ладзіць куліг. Вось гэта будзе атракцыён!

**Тэкст і фота Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Фота Уладзіміра СІДАРУКА



Канчаюцца касметычныя работы на вуліцы Галэмбей

## Закончаная інвестыцыя

Кашмарам жыхароў Чаромхі з'яўляюцца гравейкі на бакавых вулачках. Асабліва напрадвесні і восенню. Ухабістыя дарогі затапляюцца ў балотністай твані. Не праехаць, не прайсці. Асабліва прыкмячалася гэта на пасёлку Новым, які ўзнік на месцы ўрочышча «Каганка». Гміна штогод падсыпае гравейкі жвірам, але безвынікова. У час дажджавога надвор'я дарогі раскісаюць і зноў робяцца калдобіны. На большую мадэрнізацыю не хапала грошай. Але самаўрад пахадайнічаў аб еўрасаюзныя сродкі. І тут вынікла праблема. Было шмат ахвотных і ўсім не хапіла грошай. Справа доўжылася больш года. Чаромхаўскі праект на перабудову гмінных дарог на суму 3 185 473,90 зл. канчаткова быў адобраны ў ліпені. Пасля прызначэння грошай гміна аб'явіла таргі на выканаўцу. Перамагло Бельскае дарожна-маставое прадпрыемства «Максбуд». Работы пачаліся ў жніўні, а заканчэнне планавалася на 15 лістапада. І выканаўца справіўся з задачай. У назначаны тэрмін былі асфальтаваны вуліцы Грунтова, Польна, Галэмбя, Крутка, Падлесьна, адрэзак Спартовай і Саснова. У агульным падліку асфальт атрымалі 3,367 км дарог. Былі пакладзены новыя бардзюры, зроблены пад'езды да паасобных сядзіб з польбруку. Абочыны засеяны травою. Гміна скарыстала 1 592 736 зл. еўрасаюзных сродкаў і выдаткавала 1 592 737,90 зл. з гміннай касы. Чаромха мяняе сваё аблічча. Асаблівы прагрэс прыкмячаецца на пасёлку Новым. Даўнейшае ўрочышча «Каганка», парослае ядлоўцам і карлікавай сасною, красуецца зараз шыкарнымі мураванкамі з прыгожай агароджай. Гэта станоўчы вынік працы амбітных чарамшан.

**Уладзімір СІДАРУК**

# 24.11 — 30.11

**(22.03. — 20.04.)** Удачы ва ўсіх галінах і планах, пазбавішся ад турбуючых цябе праблем. Трымай руку на пульсе — паявіцца для цябе новыя магчымасці. Але 26-27.11. можаш пайсці задалёка; прыдалася б крышына пакоры — гэта можа ўратаваць тваю скуру.

**(21.04. — 21.05.)** Дома ачысціцца атмасфера, будзеш больш схільны да даравання іншым. Не разглядай свайго кепскага досведу. Могуць табе дакучаць болі галавы і страўніка, Быкоў з 3-9.05. будуць турбаваць хандра і меланхолія. У фінансах маеш шанц на неспадзяваны прыбытак і добрыя доўгатэрміновыя інвестыцыі. 25-29.11. не папсуй адносін з тым, на кім табе моцна залежыць.

**(22.05. — 22.06.)** 26-30.11. — гармонія ў адносінах з каханай асобай. Не астанешся адзін са сваімі праблемамі. Калі прытрапяцца фінансавыя памылкі, выйдзеш з іх цэлым. 23-27.11. можаш не прымірыць прыватнага жыцця з прафесійным — чымсьці трэба будзе ахвяраваць.

**(23.06. — 23.07.)** Выплывеш на шырокія воды, але прыйдзецца абмінуць яшчэ пару падводных рыфаў. Трымайся з асобамі поўнымі жыццярадаснасці, энергіі і аптымізму. Добры час на інтэлектуальныя практыкаванні. Цяжка будзе пахудзець, бо будзе шмат нагод для смакавання. Добры шанц на дадатковы заробак, файныя пакупкі. Ды 26-30.11. не страць з вачэй сваю мэту і не праварonь файную нагоду.

**(24.07. — 23.08.)** 24-26.11. не павучай іншых, звяртай увагу на дэталі, слухайся парад блізкіх табе людзей. Ды 26-30.11. благі час на навуку і творчасць. Магчымасць хуткага заробку, але і немалых страт. Таму дакладна плануй свае выдаткі, не пазычай.

**(24.08. — 23.09.)** Сярод тваіх знаёмых паявіцца асоба вартая сур'ёзнага зацікаўлення, мабыць, хтосьці старэйшы і вопытны. Не прастудзіся, апранайся цёпла ды лёгка. На працы дзейнічай разважна і метадычна, спадзявайся поспеху. Але 24-28.11. будзе цяжка табе прымаць рашэнні; замяшанне на працы можа мець прыкрыя вынікі.

**(24.09. — 23.10.)** Інтэнсіўна займайся фіззарадкай, паможа табе гэта ў стрэсе. Цёпла апранайся, не прастудзіся. Маеш шанц добра зарабіць, але не прапусці ўсяго адразу — будзеш мець схільнасць да імпульсіўных пакупак. 26-30.11. ад некаторых планаў трэба будзе табе адмовіцца — можа паявіцца штосьці не па тваіх сілах.

**(24.10. — 22.11.)** Іграеш на высокую стаўку — памогуць табе найбліжэйшыя. Атмасфера прыязнага адабрэння. Пахваліць кіраўніцтва! Падумай аб прыёме або наведанні мілага рэстаранчыка з сябрамі. Да лячэння падыходзь абдумана, ніякага эксперыментавання на сабе!

**(23.11. — 22.12.)** Вялікая паправа ў здароўі. Адчуеш сябе молада і радасна. Маеш шанц пакінуць пару нездаровых звычак. Запішыся на нейкія курсы ці абучэнні — прыдасца гэта табе ў недалёкай будучыні. Абдумай планы — дакладныя дзеянні могуць табе прынесці агромны поспех. Добрыя пакупкі. Але 26-30.11. з-за вялікіх жарсцяў і недахопу здаровага розуму можа адбыцца выбух!

**(23.12. — 20.01.)** З усмешкай прымеш і кінеш выклікі. Але асліная ўпартасць можа табе зашкодзіць. Цяпер варта сцішыцца, памедытаваць, памаліцца, пашпацыраваць у адзіноце. Павесь на цвік генеральныя парадкі і непрыемныя табе заняткі. Добра высыпайся, падкармі арганізм вітамінамі. 27-30.11. рызыка канфліктаў з супрацоўнікамі і спробы сіл з шэфам; салона можа табе гэта каштаваць!

**(21.01. — 19.02.)** 27-30.11. — час спрыяе трапным рашэнням. Добры час на шуканне свайго месца ў жыцці; паявяцца цікавыя прапановы. Засяродзься на інвестыцыйных планах. 23-27.11. хтосьці на працы схоча табе падставіць нагу; не панікуй і будзь разважлівы.

**(20.02. — 21.03.)** Амбітнасць гэта цяпер тваё другое імя, ды пільнуйся, каб праз не чагосьці не траціць. Самотныя Рыбы няхай ад сябе не адкідваюць кандыдатаў сваёй няўступлівасцю. У сям'і вырашэнне праблем і пагашэнне канфліктаў. У фінансах усё паправіцца і кампенсуюцца магчымыя страты; не чапай, аднак, жалезных рэзерваў. Пільнуйся пры шэфе — можа патракнаваць цябе як канкурэнта!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — арабскую пагаворку.

1. туз паветранага бою = 29 _ 9 _;
2. край вадаёма = 11 _ 8 _ 12 _ 13 _ 19 _;
3. антонім пераду = 32 _ 30 _ 31 _;
4. свойская буйная рагатая жывёла з тлушчавым гарбом на карку (*Bos taurus indicus*) = 16 _ 15 _ 14 _ 5 _;
5. самка казла = 6 _ 7 _ 17 _ 18 _;
6. кінамастацтва = 36 _ 37 _ 34 _ 35 _;
7. фізічная сіла = 38 _ 3 _ 28 _;
8. паглыбленне ў сцяне = 21 _ 33 _ 4 _ 20 _;
9. вязкая маса з мукі, замешанай на вадкасці = 27 _ 26 _ 23 _ 24 _ 25 _;
10. лодка з ветразем = 10 _ 1 _ 2 _ 22 _.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | 14 | 15 | 16 |
| | | | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Рубец, Шчара, Шуміліна, царква, пута, стук, хрыпата, цацка, вусы, душа, медыцына.

Рашэнне: **Шукае цар царыцы а пастух пастушыцы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.


Тацяна і Сакрат Яновічы

## ШЧАСЛІВАСЦЬ

*Мой сын!*

*Нясу на руках праз алеі жаўталістыя, і цяплынь мацярынскага позірку ў вачах жонкі. Лістапад наступіў, шахаціць пад нагамі ліствою, а побач – сын усміхаецца зоркам вячэрнім.*

*Вялікі сын.*

*Шчаслівасць у вачах жонкі.*

*Скажы, колькі ж ужо часу прайшло, калі шаптала ты мне:*

*– Кахаю, моцна, моцна кахаю цябе... Успомні: хадзілі мы па лугах квяцістых, росных, ранішняй парою. Часамі сцяжынаю лясною, у цішы збіралі грыбы чырвонагаловыя. Спалі ў водары буйнага маю, ля акна вішнёвага... Раніцою прамяністаю беглі на плёс паслухаць вясны шумналістай... Пацалункі першыя, нясмелыя, дарыла ты мне.*

*Глядзі, наш сын ужо ходзіць!*

Сакрат Яновіч, *Загоны*, Беласток 1969.

# Заўсёды разам з Сакратам

**Калі адыходзіць з жыцця чалавек, здаецца, усё кончана, ажываюць найлепшыя ўспаміны. Чалавечыя. З'ездзіць на пахаванне ў Крынкі ды правесці ў апошні шлях пакойную Тацяну Яновіч мы палічылі абавязакам і гонарам.**

Вобраз гэтай сціпанай, культурнай жанчыны неадлучна зросся з літаратурнай спадчынай, замежнымі паездкамі ды грамадскай і палітычнай дзейнасцю Сакрата Яновіча.

— Яны стварылі такі вобраз сям'і, дзе заўсёды можна было забегчы, — кажа Лёнік Тарасэвіч. З сям'ёй Яновічаў мастак сябраваў з 1981 года.

— Гэта былі людзі, якія дапаўнялі адзін аднаго. Сакрат быў інтэлектуальным рухавіком, а Таня старалася ўсё спалучыць, была такім Сакратавым анёлам...

У дарозе, недзе ў сэрцы Кнышынскай пушчы, Яўген Вапа прыгадаў іншыя беларускія хаўтуры, калі разам з сябрамі дабіраўся з Варшавы ў Беласток, на прыватнай машыне Янкі Жамойціна, на пахаванне Юркі Геніюша. Па дарозе папалі ў дарожную катастрофу. Але ж дабраліся на могілкі, паспелі. На двары стаяў такі пранізлівы холад, што ўсе акасцянелі.

— Пасля нас забраў да сябе Сакрат, — успамінае Яўген Вапа. — Ён тады жыў у Беластоку, у блёку па вуліцы Складоўскай. Памятаю, як Таня напарыла вады і мы доўга мачылі ногі, адаграваліся...

Айцец Кастусь Бандарук, які ў той марозны дзень прамаўляў над магілай Юркі Геніюша, зараз дабіраўся з намі ў Крынкі аддаць свой апошні паклон. Аказалася, што ён далёкі сваяк спадарыні Тацяны. Пра жонку Яновіча гаварыў з узрушанасцю і павагай.

— Яна цікавілася тым, чым займаўся Сакрат, была яго першым тактоўным крытыкам. Сакрат быў чалавекам імпульсіўным, а яна асобай сціпанай, тактоўнай. Абое, у згодным рытме сэрца, прайшлі разам больш за пяцьдзесят гадоў...

— Таня была вялікай апорай для Сакрата ў цяжкі для яго час, — кажа Юры Хмялеўскі, шматгадовы сябра сям'і.

— Яны вялі такі адкрыты дом і ў Беластоку, і ў Крынках. Таня чытала «Ніву», «Часопіс», іншыя беларускія выданні, так што яна ведала, пра што пішуць і гавораць у нашым свеце. Не забуду ніколі яе цёплага голасу. Калі ім тэлефанавалі, яна заўсёды падымала трубку і казала: „Хвілінку пачакайце, ужо пашу Сакрата".

* * *

Светлай памяці Тацяна Яновіч, верная сяброўка жыцця вядомага беларускага пісьменніка Сакрата Яновіча, пасля доўгай хваробы пайшла з жыцця 31 кастрычніка 2013 года, на 78 годзе жыцця. Жалобнае набажэнства адбылося 5 лістапада г.г. у крынкаўскай царкве Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы. У развітанні прымалі ўдзел сыны з сем'ямі, сваякі, сябры, знаёмыя ды мясцовыя ўлады. Свежыя могілкі Яновічаў пазначаны бел-чырвона-белым сцягам. Мы запыталі ў мастака Лявона Тарасэвіча, вялікага сябры пісьменніка, ці ёсць ужо праект надмагільнага помніка.





— Задума ўжо ёсць, — кажа мастак, — але найперш мы мусім дамовіцца з сям'ёй, каб усё атрымалася па-людску...

У Славаміра Яновіча, сына пісьменніка, мы спыталі пра яго ацэнку дзейнасці „Вілы Сакрата".

— Я пад вялікім уражаннем таго, што сёлета адбылося пад знакам „Вілы Сакрата". Добра, што знайшліся людзі, якія хочуць папулярызаваць творчасць нашага бацькі. Я магу сказаць, што згодны з іх ідэямі на сто пяцьдзесят адсоткаў і толькі шкадую, што сам не магу гэтым займацца...

Славамір Яновіч не меў сілы, каб падзяліцца сваімі роздумамі наконт смерці маці.

— Я ведаю адно, — сказаў ён, — сёння нешта скончылася.

* * *

Пра сціплую, ветлівую Тацяну Яновіч я ад пачатку думала з захапленнем. Гэта з-за расказу самога Сакрата. Аднойчы ён расказаў з чаго пачалося іх каханне.

— Яна не спалохалася маёй беларускай мовы і не дала драла...

Духоўную прыгожасць Тацяны Яновіч убачылі ўдзельнікі бенефісу Сакрата, зладжанага пісьменніку людзьмі з літаратурна-мастацкага асяроддзя „Карткі" ў беластоцкай кавярні „Фама". Спадарыня Тацяна з'явілася на свята ў беларускай вышыванцы. Але не гэта ўразіла найбольш. У час, калі многія выступоўцы хвалілі яе гасціннасць ды пад самыя нябёсы усхвалялі яе анёльскую цярплівасць, яна адказала адным сказам:

— Гэта ж ніякае не геройства. Проста, так трэба!

— Я ўспамінаю атрасіны ў 1980-я гады ў беластоцкім клубе „Гвінт", — дадае Юры Хмялеўскі. — Тады Сакрат быў у нас, БАСаўцаў, госцем. З ім была Таня. Памятаю яе народны строй. І тое, што яна была заўсёды разам з Сакратам. Для нас яны былі такім узорам беларускага сужонства.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960